# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

ГАЛОЎНАЕ

Ў НУМАРЫ:



МАЙ 1935 г. 10

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

# ЗМЕСТ

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

МАЙ 1935 г. № 10 (34)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63, тэл. 22412

# ПРАМОВА тав. СТАЛІНА

## ў Крэмлёўскім палацы на выпуску акадэмікаў Чырвонай Арміі 4 мая 1935 года



Таварышы! Нельга адмаўляць, што за апошні час мы мелі вялікія поспехі як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне кіравання. У сувязі з гэтым занадта многа гавораць у нас аб заслугах кіраўнікоў, аб заслугах правадыроў. Ім прыпісваюць усё, амаль усе нашы дасягненні. Гэта, вядома, няверна і няправільна. Справа не толькі ў правадырах. Але не аб гэтым я хацеў-бы гаварыць сёння. Я хацеў-бы сказаць некалькі слоў аб кадрах, аб нашых кадрах наогул і ў прыватнасці аб кадрах нашай Чырвонай Арміі.

Вы ведаеце, што мы атрымалі ў спадчыну ад старога часу адсталую тэхнічна і поўжабрацкую, разбураную краіну. Разбураная чатырма гадамі імперыялістычнай вайны, паўторна разбураная трыма гадамі грамадзянскай вайны, краіна з поўграматным насельніцтвам, з нізкай тэхнікай, з паасобнымі оазісамі прамысловасці, тануўшымі сярод мора драбнейшых сялянскіх гаспадарак,—вось якую краіну атрымалі мы ў спадчыну ад мінулага. Задача заключалася ў тым, каб гэту краіну перавесці з рэек сярэдневякоўя і цемнаты на рэйкі сучаснай індустрыі і машынізаванай сельскай гаспадаркі. Задача, як бачы-

це, сур'ёзная і трудная. Пытанне стаяла так: **або** мы гэту задачу вырашым у найкарацейшы тэрмін і ўмацуем у нашай краіне соцыялізм, **або** мы яе не вырашым і тады наша краіна — слабая тэхнічна і цёмная ў культурных адносінах — растраціць сваю незалежнасць і ператворыцца ў аб'ект ігры імперыялістычных дзяржаў.

Наша краіна перажывала тады перыяд люцейшага голаду ў галіне тэхнікі. Не хапала машын для індустрыі. Не было машын для сельскай гаспадаркі. Не было машын для транспарта. Не было той элементарнай тэхнічнай базы, без чаго немысліма індустрыяльнае пераўтварэнне краіны. Былі толькі паасобныя прадпасылкі для стварэння такой базы. Трэба было стварыць першакласную індустрыю. Трэба было накіраваць гэту індустрыю на тое, каб яна была здольна рэарганізаваць тэхнічна не толькі прамысловасць, але і сельскую гаспадарку, але і наш чыгуначны транспарт. А для гэтага трэба было пайсці на афяры і навесці ва ўсім самую жорсткую эканомію, трэба было эканоміць і на харчаванні, і на школах, і на мануфактуры, каб накапіць неабходныя сродкі — для стварэння індустрыі. Другога шляху для зжывання голаду ў галіне тэхнікі не было. Так вучыў нас Ленін, і мы ішлі ў гэтай справе па стапах Леніна.

Зразумела, што ў такой вялікай і труднай справе нельга было чакаць суцэльных і быстрых поспехаў. У такой справе поспехі могуць абазначацца толькі праз некалькі год. Неабходна было таму ўзброіцца моцнымі нервамі, бальшэвіцкай вытрыманасцю і ўпартым цярпеннем, каб перамагчы першыя няўдачы і няўхільна ісці наперад да вялікай мэты, не дапускаючы хістанняў і няўпэўненасці ў сваіх радах.

Вы ведаеце, што мы вялі гэту справу такім іменна чынам. Але не ва ўсіх нашых таварышоў хапіла нерваў, цярпення і вытрыманасці. Сярод нашых таварышоў знайшліся людзі, якія пасля першых-жа затрудненняў сталі клікаць да адступлення. Гавораць, што «хто старое памяне, таму вока вон». Гэта, вядома, верна. Але ў чалавека ёсць памяць, і нявольна ўспамінаеш аб мінулым пры падвядзенні вынікаў нашай работы **(вясёлае ажыўленне ў зале).** Дык вось, былі ў нас таварышы, якія спалохаліся труднасцей і сталі клікаць партыю к адступленню. Яны гаварылі: «Што нам ваша індустрыялізацыя і калектывізацыя, машыны, чорная металургія, трактары, камбайны, аўтамабілі? Далі-б лепш пабольш мануфактуры, купілі-б лепш пабольш сыравіны для вырабу шырспажыву і пабольш-бы давалі насельніцтву ўсіх тых дробязей, чым красен быт людзей. Стварэнне індустрыі пры нашай адсталасці, ды яшчэ першакласнай індустрыі — небяспечная мара».

Вядома, мы маглі-б тры мільярды рублёў валюты, здабытых шляхам самай жорсткай эканоміі і страчаных на стварэнне нашай індустрыі, — мы маглі-б іх скарыстаць на імпарт сыравіны і ўзмацненне вырабу прадметаў шырокага спажывання. Гэта таксама свайго роду «план». Але пры такім «плане» мы не мелі-б ні металургіі, ні машынабудаўніцтва, ні трактароў і аўтамабіляў, ні авіяцыі і танкаў. Мы аказаліся-б бяззбройнымі перад знешнімі ворагамі. Мы падарвалі-б асновы соцыялізма ў нашай краіне. Мы аказаліся-б у палоне ў буржуазіі, унутранай і знешняй.

Відавочна, трэба было выбіраць паміж двума планамі: паміж планам адступлення, які вёў і не мог не весці к паражэнню соцыялізма, і планам наступлення, які вёў і, як ведаеце, ужо прывёў да перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Мы выбралі план наступлення і пайшлі наперад па ленінскаму шляху, адцёршы назад гэтых таварышоў як людзей, якія бачылі сяк-так толькі ў сябе пад носам, але закрывалі вочы на бліжэйшае будучае нашай краіны, на будучае соцыялізма ў нашай краіне.

Але гэтыя таварышы не заўсёды абмяжоўваліся крытыкай і пасіўным супраціўленнем. Яны пагражалі нам падняццем паўстання ў партыі супроць Цэнтральнага Камітэта. Больш таго: яны пагражалі сяму-таму з нас кулямі. Відаць, яны разлічвалі запалохаць нас і прымусіць нас звярнуць з ленінскага шляху. Гэтыя людзі, відавочна, забыліся, што мы, бальшэвікі, — людзі асаблівага пакрою. Яны забылі, што бальшавікоў не запалохаеш ні труднасцямі, ні пагрозамі. Яны забылі, што нас

каваў вялікі Ленін, наш правадыр, наш настаўнік, наш бацька, які не ведаў і не прызнаваў страху ў барацьбе. Яны забылі, што чым мацней шалеюць ворагі і чым больш упадаюць у істэрыку працiўнікі ўнутры партыі, тым больш накаляюцца бальшэвікі для новай барацьбы і тым імклівей ідуць яны ўперад.

Зразумела, што мы і не думалі звароочваць з ленінскага шляху. Больш таго, умацаваўшыся на гэтым шляху, мы яшчэ імклівей пашлі ўперад, змятаючы з дарогі ўсе і ўсякія перашкоды. Праўда, нам прышлося пры гэтым па шляху памяць бакі таму-сяму з гэтых таварышоў. Але з гэтым ужо нічога не парobiш. Павінен прызнацца, што я таксама прылажыў руку да гэтай справы **(бурныя апладысменты, выгукі «ура»)**.

Так, таварышы, мы пашлі ўпэўнена і імкліва па шляху індустрыялізацыі і калектывізацыі нашай краіны. І цяпер гэты шлях можна лічыць ужо пройдзеным.

Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што мы дабіліся на гэтым шляху велізарных поспехаў. Цяпер усе прызнаюць, што мы маем ужо магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ўгару, арганізаваную і бліскуча аснашчоную Чырвоную Армію.

Гэта значыць, што мы зжылі ўжо ў асноўным перыяд голаду ў галіне тэхнікі.

Але, зжыўшы перыяд голаду ў галіне тэхнікі, мы ўступілі ў новы перыяд, у перыяд, я-б сказаў, голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, у галіне работнікаў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад. Справа ў тым, што ў нас ёсць фабрыкі, заводы, калгасы, соўгасы, армія, ёсць тэхніка для ўсёй гэтай справы, але не хапае людзей, маючых дастатковы вопыт, неабходны для таго, каб выжаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выжаць. Раней мы гаварылі, што «тэхніка вырашае ўсё». Гэты лозунг дапамог нам у тых адносінах, што мы ліквідавалі голад у галіне тэхнікі і стварылі найшырэйшую тэхнічную базу ва ўсіх галінах дзейнасці для ўзбраення нашых людзей першакласнай тэхнікай. Гэта вельмі добра. Але гэтага далёка і далёка недастаткова. Каб прывесці тэхніку ў рух і скарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць гэту тэхніку па ўсіх правілах мастацтва. Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,— мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды. Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай Арміі мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекту ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер. Вось чаму ўпор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг — «тэхніка вырашае ўсё», які з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяду, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі, — павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што «кадры вырашаюць усё». У гэтым цяпер галоўнае.

Ці можна сказаць, што нашы людзі зразумелі і ўсвядомілі поўнасцю вялікае значэнне гэтага новага лозунга? Я-б гэтага не сказаў. У адваротным выпадку мы-б не мелі тых агідных адносін да людзей, да кадраў, да работнікаў, якія наглядаем нярэдка ў нашай практыцы. Лозунг «кадры вырашаюць усё» — патрабуе, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны да нашых работнікаў, да «малых» і «вялікіх», у якой-бы галіне яны ні працавалі, вырошчвалі іх клапатліва, дапамагалі ім, калі яны маюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочвалі іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, высоўвалі іх уперад і т. д. А між тым на справе мы маем у цэлым радзе выпадкаў факты бяздушна-бюракратычных і прама агідных адносін да работнікаў. Гэтым, уласна, і тлумачыцца, што замест таго, каб вывучаць людзей і толькі пасля вывучэння ставіць іх на пасты, нярэдка швыраюцца людзьмі як пешкамі. Цаніць машыны і рапартаваць аб тым, колькі ў нас ёсць тэхнікі на заводах і фабрыках, — навучыліся. Але я не ведаю ні аднаго выпадку, дзе-б з такой-жа ахвотай рапартавалі аб тым, колькі людзей мы вы-

расцілі за такі-то перыяд і як мы дапамагалі людзям у тым, каб яны раслі і загартоўваліся ў рабоце. Чым гэта тлумачыцца? Тлумачыцца гэта тым, што ў нас не навучыліся яшчэ цаніць людзей, цаніць работнікаў, цаніць кадры.

Я ўспамінаю выпадак у Сібіры, дзе я быў адзін час у ссылцы. Справа была вясной, у часе разводдзя. Чалавек 30 пашлі на раку лавіць лес, унесены разбушаваўшайся велізарнай ракой. К вечару вярнуліся яны ў вёску, але без аднаго таварыша. На пытанне аб тым, дзе-ж трыццаты, яны роўнадушна адказалі, што трыццаты «астаўся там». На маё пытанне: «як-жа так, астаўся» яны з тым-жа роўнадушшам адказалі: «чаго-ж там яшчэ пытацца, затануў, стала быць». І тут-жа адзін з іх стаў спяшацца кудысьці, заявіўшы, што «трэба-б пайсці кабылу напаіць». На мой папрок, што яны жывёлу шкадуюць больш, чым людзей, адзін з іх адказаў пры агульным адабрэнні астатніх: «Што-ж нам шкадаваць іх, людзей-то? Людзей мы заўсёды зрабіць можам. А вось кабылу... папрабуй-ка зрабіць кабылу» **(агульнае ажыўленне ў зале).** Вось вам штрых, можа быць малазначны, але вельмі характэрны. Мне здаецца, што роўнадушныя адносіны некаторых нашых кіраўнікоў да людзей, да кадраў і няўменне цаніць людзей з'яўляюцца перажыткам тых дзікіх адносін людзей к людзям, якія сказаліся ў толькі што расказаным эпізодзе ў далёкай Сібіры.

Дык вось, таварышы, калі мы хочам зжыць з поспехам голад у галіне людзей і дабіцца таго, каб наша краіна мела дастатковую колькасць кадраў, здольных рухаць наперад тэхніку і пусціць яе ў дзеянне, — мы павінны перш за ўсё навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе. Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё». Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў — будзем кульгаць на абедзве нагі.

Заканчваючы прамову, дазвольце агаласіць тост за здароўе і поспехі нашых акадэмікаў-выпускнікоў па Чырвонай Арміі!

Жадаю ім поспеху ў справе арганізацыі і кіраўніцтва абаронай нашай краіны!

Таварышы! Вы скончылі вышэйшую школу і атрымалі там першую загартаванасць. Але школа — гэта толькі падрыхтоўчая ступень. Сапраўдная загартаванасць кадраў атрымліваецца на жывой рабоце, па-за школай, на барацьбе з труднасцямі, на перамаганні труднасцей. Памятайце, таварышы, што толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот — ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх. Толькі ў барацьбе з труднасцямі куюцца сапраўдныя кадры. А калі наша армія будзе мець у дастатковай колькасці сапраўдныя загартаваныя кадры, яна будзе непераможна.

За ваша здароўе, таварышы! **(Бурныя апладысменты ўсёй залы. Усе ўстаюць і гучнымі выгукамі «ўра» вітаюць таварыша Сталіна).**

# Аб вырошчванні рабселькораў

✶ ✶ ✶ Б. ГАРЭЛІК ✶ ✶ ✶

8—10 красавіка пры рэдакцыі «Правды» адбылася пашыраная нарада рэдкалегіі «Рабоче-крестьянского корреспондента» сумесна з работнікамі рабселькораўскага руху. У нарадзе прымалі ўдзел вагадчыкі рабселькораўскімі аддзеламі краявых і абласных газет («Рабочая Москва», «Уральский рабочий», «Горьковская коммуна», «Молот», «Рабочий путь», «Соц. Харьковщины»), кіраўнікі рабселькораўскіх журналаў (ленінградскага і украінскага), рэдактары раённых, чыгуначных і заводскіх газет, прадстаўнікі рэдакцый цэнтральных, кіруючых друкам органаў («Большевистская печать», «Районная и политотдельская печать», «Селькор») і ўсесаюзнага комуністычнага інстытута журналістыкі.

***

Асаблівасць гэтай нарады заключалася ў тым, што яна выдзеліла для абмеркавання з сумы рознастайных пытанняў рабселькораўскага руху адно, але па сутнасці важнейшае для сучаснага моманту пытанне. Гэта пытанне аб вырошчванні рабселькораў. Увага нарады была прыкавана ў сувязі з гэтым к праблеме аб месцы рабселькора на газетнай старонцы ў новых умовах работы друку.

Такая сувязь з'явілася не выпадковай. Праблема вырошчвання рабселькораў і задача ўзмацнення ролі іх на газетнай старонцы складаюць адно цэлае. Між тым, як паказвае практыка многіх газет, работа сярод рабселькораў вядзецца адарвана ад газетнай старонкі, ізалявана ад працэсу стварэння газеты.

У многіх газет прыходзіцца назіраць дзіўную супярэчнасць у іх рабоце. Возьмем, скажам, абласную варонежскую газету «Коммуна». Яна налічвае ў сябе ў вобласці 45 тысяч рабселькораў. Лічба велізарная. Але чаму, паўстае пытанне, са старонак «Комуны» не чуваць рабселькораў—хоць-бы дзесяткаў, соцень з гэтых 45 тысяч? Чаму не відаць на старонках «Коммуны» артыкулаў, нарысаў, фельетонаў і проста карэспандэнцый рабселькораў?

Гэта-ж пытанне можна задаць і горкаўскай «Коммуне», і «Уральскому рабочему», і многім іншым рэдакцыям, асабліва абласных і краявых газет.

Нарада правільна адзначыла, што многія газеты прадаўжаюць яшчэ недаацэньваць непасрэдны ўдзел рабселькораў у газеце, ролю іх як аўтараў, карэспандэнтаў, грамадскіх супрацоўнікаў газет. Работнікі рэдакцый праводзяць злёты, ездзяць к рабселькорам, інструктуюць іх, але з іх асяроддзя вельмі мала вырошчваюць людзей, якім прадастаўляецца рэгулярнае месца ў газеце.

Нямала газет гатова многае зрабіць для рабселькораў у галіне масавай работы, але пры гэтым выпускаюць з-пад увагі, што трэба паклапаціцца і аб лепшай якасці карэспандэнцый рабселькораў. Яны, гэтыя газеты, забываюць якраз тое, што і складае галоўнае звяно ў рабоце рабселькора як карэспандэнта: яго «прадукцыю», тое, чаго шукае сама-ж газета,—цікавую тэму, цікавую пастаноўку пытання, яркі, важкі палітычны факт, новы сігнал, важнае паведамленне, інфармацыю. Забываюць карэспандэнцыю, г. зн. тое, што адлюстроўвае палітычны ўзровень данага рабселькора, яго здольнасць палітычна ацэньваць факты, яго ўменне бачыць жыццё, яго здольнасць дапамагаць у будаўніцтве данай газеты.

Некаторыя рэдакцыі прабуюць вырашыць праблему аб месцы рабселькора на газетнай старонцы фармальна, шляхам адводу пэўнай колькасці радкоў рабселькораўскім матэрыялам. Практыка многіх газет, якія так фармальна падышлі да справы, не дала, натуральна, патрэбных рэзультатаў. Пачаўшы змяшчаць матэрыялы рабселькораў без уліку іх якасці, без патрэбнага ўважлівага падыходу да тэматыкі ўзнімаемых рабселькорам пытанняў, гэтыя газеты праблемы не вырашылі, ды не маглі вырашыць.

Чаму гэта так? Таму, што сёння пытанне аб якасці рабселькораўскай карэспандэнцыі стаіць таксама востра, як

востра стаяць задачы задавалення нашымі газетамі ўзрастаючых запросаў совецкага чытача. Нельга адмаўляць, што карэспандэнцыі рабселькораўскага актыва часта яшчэ ніжэй узроўню патрабаванняў, якія прад'яўляе чытач да газеты. І недарэчна было-б станавіцца на такі пункт погляду, што газета можа задаволіцца толькі друкаваннем карэспандэнцый «наогул», — друкаваннем толькі таму, што гэта «рабселькораўскі матэрыял»... Такая пастаноўка пытання была-б прыніжэннем сапраўднай, выключна сур'ёзнай ролі рабселькора ў газеце.

Партыя і совецкая грамадскасць патрабуюць цяпер ад газет найбольш глыбокага пранікнення ў новыя з'явы соцыялістычнай эканомікі. Ад газет патрабуецца выключна яркае адлюстраванне надзвычай цікавага жыцця нашай соцыялістычнай радзімы, большая рознастайнасць у тэматыцы. Ад газет патрабуецца больш увагі і месца інфармацыі, больш жывых матэрыялаў—нарысаў, фельетонаў, цікавых, вострых карэспандэнцый. Ад газет патрабуецца больш кампетэнтнае асвятленне пытанняў марксісцка-ленінскага выхавання мас, вывучэння гісторыі партыі, партыйнай работы, выхавання дзяцей, пытанняў дабрабыту, гандлю, асветы, культуры і т. д.

Усё гэта не можа ў сваю чаргу не сказацца на характары патрабаванняў газет к рабселькораўскім карэспандэнцыям. Гэтага якраз многія газеты яшчэ і не падумалі сказаць рабселькорам нідзе: ні на шматлікіх злётах, якія гэтыя газеты праводзяць, ні другімі якімі-небудзь шляхамі, і не толькі сказаць, але і практычна справай дапамагчы рабселькорам гэтыя патрабаванні задаволіць.

Рабселькораўскім работнікам часта прыходзіцца «біцца за месца ў газеце» для той ці іншай рабселькораўскай карэспандэнцыі. На жаль, робіцца гэта ва многіх выпадках прымітыўна, не так, як трэба цяпер.

Патрабуючы месца ў газеце для заметак рабселькораў, трэба адначасова мець магчымасць сказаць сваёй рэдакцыі: «Мы патрабуем месца для такой-та вострай, безумоўна праверанай, цікавай, жывой, новай карэспандэнцыі нашага такога-та рабселькора. Гэта карэспандэнцыя (нарыс, артыкульчык, фельетон) не менш (а можа быць і больш) важна і цікава, чым вось такая-та рэч нашага штатнага супрацоўніка».

Такі, прыкладна, узровень патрабаванняў к якасці рабселькораўскай карэспандэнцыі, прызначанай для надрукавання, несумненна, павысіць ролю рабселькора ў газетнай паласе, узмоцніць удзельную вагу рабселькора на газетнай старонцы, мацней мабілізуе яго для павышэння сваёй палітычнай асветы і газетнай кваліфікацыі.

У нездавальняючай якасці большасці атрымліваемых рабселькораўскіх карэспандэнцый (на манер папярэдніх «мясцком, адгукніся», «ахова працы, дзе ты») вінаваты самі газеты, адарваўшыя сваю работу сярод рабселькораў ад работы над газетным лістом. З недахопаў рабселькораўскай «пошты» гэтыя газеты не здолелі зрабіць вострых палітычных і практычных вывадаў у сэнсе napaвышэння палітычнага і літаратурнага ўзроўню сваіх рабселькораў, каб забяспечыць ім пачэснае месца ў газеце. Замест гэтага рэдакцыі адмахнуліся ад рабселькораў і сталі рабіць свае газеты рукамі адных штатных супрацоўнікаў і ўласных карэспандэнтаў, пакінуўшы ў лепшым выпадку для рабселькораў «падборачную» акрошку або асобна выдзеленыя раздзелы «рабочых пісем».

Задача гэтых газет заключаецца зараз у тым, каб падняць вышэй ролю рабселькораў на старонцы, падцягваць узровень нашага рабселькора к грамадска-палітычнаму ўзроўню добрага, баявога, здольнага супрацоўніка, уласнага карэспандэнта газеты, які працуе ў парадку выканання сваёй грамадскай функцыі.

Мы падкрэсліваем слова «к грамадска-палітычнаму ўзроўню», каб адразу-ж папярэдзіць ад непаразумення, быццам гутарка ідзе аб чыста літаратурных якасцях рабселькораўскай карэспандэнцыі, яе літаратурнай апрацаванасці. І гэта — важна. Але галоўнае не ў гэтым. Галоўнае ў тым, каб рэдакцыя, робячы газету, магла абаперціся на рабселькора. Галоўнае ў тым, каб з асяроддзя рабселькораў раслі карэспандэнты-грамадзчыкі, чуткія, зоркія, ініцыятыўныя, самастойныя, каб яны раслі на

рабоце вакол газеты, раслі як яе поўнапраўныя аўтары. А гэта значыць, што ўсе рабселькоры будуць расці палітычна, культурна, як ударнікі на вытворчасці, актыўныя памочнікі партыі, актыўныя выканаўцы яе палітыкі. І ў гэтым святле ясна, што ўвага рэдакцыі да павышэння якасці карэспандэнцый рабселькораў складае неабходнейшую ўмову правільнага палітычнага выхавання мас рабселькораў.

Чаму атрымліваецца ў некаторых газет так, што, маючы магчымасць називаць велізарныя лічбы рабселькораў, яны бездапаможны, калі патрабуецца адказаць аб канкрэтных рабселькорах? Чаму, нарэшце, выпадае з поля зроку газет такая «дэталь» у рабоце па кіраўніцтву рабселькорамі, як работа з карэспандэнцыяй, клопаты аб яе якасці?

Таму, што людзі прывыклі мерыць сваю работу сярэднімі і агульнымі лічбамі, але не ўмеюць аперываць з канкрэтнымі, жывымі адзінкамі. Рабселькораўскі рух гэтыя газеты прывыклі адчуваць толькі на ўрачыстых злётах, у Дзень друку, або ў пісьмовых справаздачах, але зусім не ў будзённай, дзелавой абстаноўцы. Гэтыя газеты прывыклі бачыць рабселькораўскі рух «наогул», але не прывыклі пеставаць, вырошчваць, выхоўваць кожнага асобнага здольнага чалавека. Так, у некаторых рэдакцый паступова траціцца здольнасць весці будзённую, упорную, дзелавую, клапатлівую работу па вырошчванню людзей.

**
*

Заўважваецца яшчэ і такая супярэчнасць у рабоце некаторых газет сярод рабселькораў. Выявілася гэта, у прыватнасці, і на нарадзе. Газета разгортвае многа масавых мерапрыемстваў, часамі вельмі цікавых і каштоўных. Работа гэта выражаецца ў наладжанні габінетаў або клубаў рабселькораў, кансультацый, «дзён рабселькора», рэйдаў, семінараў і т. д. Нарада падкрэсліла жыццёвасць усіх гэтых новых форм работы. Але пры ўсім станоўчым вопыце масавай работы з рабселькорамі нельга не заўважыць слабага адлюстравання гэтых форм работы ў росце рабселькораўскіх мас.

У чым тут справа?

У тым, што рэдакцыі часта не запаўняюць гэтыя формы работы патрэбным **зместам.** Няма часта ярка выражанай пэўнай ідэі і мэтавай устаноўкі ва ўсёй гэтай рабоце, няма раўнення на сістэматычнае вырошчванне рабселькораў. Няма ўвагі к таму, каб у рэзультаце рознастайных, патрэбных і каштоўных мерапрыемстваў узбагачалася сама газета, узбагачалася кадрамі, актывам, аўтарскімі сіламі, узбагачалася ў сувязі з гэтым жывой інфармацыяй аб мясцовым жыцці, тэмамі, пытаннямі і т. д. Формы як-бы існуюць самі па сабе, а інтарэсы газеты самі па сабе. Рабселькораўская работа газеты стаіць як-бы ў баку ад усёй астатняй газетнай справы.

Вось чаму нарада падкрэсліла, што накоплены вопыт работы сярод рабселькораў, усе дасканалыя ініцыятыўныя формы работы павінны быць цясней, жывей, непасрэдней звязаны з падборам людзей, вырошчваннем іх, з прасоўваннем людзей па меры іх росту. А што значыць у нашых, газетных, умовах прасоўванне людзей? Гэта значыць — пашыраць магчымасці для сур'ёзных, дзелавых выступленняў гэтых людзей у газеце, для непасрэднага ўдзелу іх, як гаварыў тав. Сталін, «у справе кіраўніцтва газетай».

**
*

Форм работы сярод рабселькораў у рэдакцый газет накапілася многа, і наперадзе—яшчэ непачатае поле для новых шуканняў форм і метадаў работы. Але сапраўды вялікія рэзультаты будуць дасягнуты толькі тады, калі работа сярод рабселькораў будзе пранікнута сапраўднай барацьбой за ажыццяўленне ўказання тав. Сталіна, дадзенага ім у гутарцы з дэлегацыяй металургаў.

> **«Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва».**

Гэта ўказанне, якое мае велізарнейшае палітычнае значэнне ва ўсіх абсалютна галінах дзяржаўнай, гаспадарчай, грамадскай работы, палкам адносіцца і да нас, газетных работнікаў, да нашай работы з рабселькорамі. Ажыццяўленне гэтага ўказання ва ўсёй практыцы кіраўніцтва рабселькораўскім рухам складае цяпер аснову поспеху ўсіх газетных

пачынаннях у гэтай галіне. Трэба зразумець, што гэта — рашаючы лозунг сёчашняга дня ў рабселькораўскім руху, у кіраўніцтве ім з боку газет.

На нарадзе чуліся асобныя галасы, выражаўшыя сумненні: «Ці не прывядзе такая пастаноўка пытання к стаўцы на адзінкі рабселькораў, на «рабжура», а не на масавы рабселькораўскі рух?»

Гэта — чысцейшае непаразуменне.

Ні ў варонежскай, ні ў «Горьковской коммуны», ні ў якой іншай газеты з гэтага боку няма ніякіх падстаў чакаць змяншэння колькасці рабселькораў або аслаблення прытоку тысяч і дзесяткаў тысяч карэспандэнцый і пісем. А вось няўвага да кожнага растучага чалавека прадстаўляе сабой сапраўдную небяспеку для далейшага ўцягнення ў рабселькораўскі рух новых мас працоўных. Няўменне спалучаць вялікі размах у разгортванні рабселькораўскага руху з крапатлівай работай па вырошчванню людзей прадстаўляе сабой сапраўдную небяспеку страты данай газетай шматлікіх талантаў, якія штодзенна нараджае наш рабселькораўскі рух у ходзе свайго бурнага развіцця. Уцягваць масы ў рух трэба. Нельга таксама ні ў якай меры аслабляць увагу к запросам людзей, якія толькі-толькі прыступаюць к рабселькораўскай рабоце. Нельга пагарджаць першым пісьмом рабочага і калгасніка. Трэба зразумець, што працаваць з рабселькорамі — значыць падыходзіць да іх дыферэнцыявана, ведаць запросы асобных сваіх атрадаў рабселькораў.

Між тым наша газеты — часта насапраўднаму сваіх рабселькораў не ведаюць. Не ведаючы іх, газеты, натуральна, не могуць узяць ад сваіх тысяч і дзесяткаў тысяч карэспандэнтаў усяго таго, што можа даць газеце сувязь з масамі. Нельга вырошчваць здольнага і разумеючага работніка, калі газета не ведае гэтага работніка, не ведае, дзе яго шукаць. Адсюль часта бываюць скаргі рэдакцый на цяжкую абстаноўку і ўмовы ў рабоце, на адсутнасць людзей, аўтараў, добрых карэспандэнтаў і т. д.

Няведанне газетай сваіх рабселькораў прыводзіць да засмечвання іх радоў класава-чужымі элементамі. На нарадзе адзначалася нямала выпадкаў, калі асобныя газеты друкуюць матэрыялы праходзімцаў, жулікаў, яўных класавых ворагаў.

На нарадзе ўсеагульную ўвагу прыцягнула выступленне рэдакцыі ленінградскай заводскай газеты «Большевик». Гэта выступленне было асабліва каштоўным таму, што яно ярка паказала, як ва ўмовах газетнай работы ажыццяўляецца мудрае ўказанне тав. Сталіна аб вырошчванні людзей.

Газету «Большевик» робяць рабкоры. Газета вялікая, выдаецца на буйнейшым заводзе. Штат рэдакцыі 3—4 чалавекі, а газета жывая, цікавая, баявы партыйны орган.

Вазьміце, напрыклад, старонкі гэтай газеты. Рабкоры пішуць у гэту газету кваліфікаваныя артыкулы і карэспандэнцыі, рэцэнзіі на кінокарціны і кнігі. Рабкоры робяць цэхавыя зменныя старонкі газеты. Рабкоры прыносяць у гэту газету цікавыя тэмы.

Рэдакцыя газеты «Большевик» выдае спецыяльную «Веселую страничку», старонку сатыры. Яна рэдагуецца токарам тав. Шэлепавым і складаецца рабкорамі-фельетаністамі таварышамі Сеўкіным, Горлавым, рабкорам - карыкатурыстам тав. Кудраўцэвым і інш.

Прыклад газеты «Большевик» павучальны далёка не для адных толькі раёчных і заводскіх газет. Трэба прама сказаць, што прадстаўнікам абласных газет, якія прысутнічалі на нарадзе, прыходзілася не раз чырванець, калі дакладвалі аб сваёй рабоце прадстаўнікі рэдакцый газет «Большевик», «Красный треугольник», «Мартеновка» і некаторыя рэдактары раённых газет.

Вырошчванне рабселькора аднолькава абавязкова і для заводскай, і для абласной, і для цэнтральнай газеты. Розніца толькі ва ўзроўні падрыхтоўкі рабселькораў розных газет. Кожная газета, натуральна, рыхтуе такіх рабселькораў, якія падыходзяць па свайму ўзроўню развіцця к маштабу работы і характару данай газеты. Аб гэтым прыходзіцца асабліва напомніць таму, што некаторыя рэдакцыі нашых «вялікіх» газет зусім няправільна думаюць, што іх газеты, моў, не павінны асабліва **апірацца** на рабселькораў, што «такі час прайшоў». Такая пастаноўка пытання толькі даказвае, што гэтыя газеты страцілі адчуванне тых задач, якія стаяць перад імі ў справе сістэматычнага вырошчвання рабселькораў.

**(Большевистская печать № 8-9).**

Агляд ДРУКУ

# У БАРАЦЬБЕ ЗА КАДРЫ

У 1933 г. калгас «Чырвоны бераг» Пішчалаўскага сельсовета рашыў арганізаваць парніковую гаспадарку. 20 калгаснікаў працавалі доўгі час на гэтай, упершыню створанай ва ўсім сельсовеце, галіне гаспадаркі. Шмат было затрачана і сродкаў. А рэзультат атрымаўся дрэнны, выдаткі не апраўдалі сябе.

У 1934 г. у калгас быў прыслан тав. **Стахоўскі** Іван Цімафеевіч, толькі што скончыўшы школу садаводства. Ён прыняў парніковую гаспадарку ў поўразбураным выглядзе.

> **«Але Іван не расцяроўся. Сабраўшы вакол сябе актыў лепшых калгаснікаў і калгасніц, ён падрыхтоўку да вясны пачаў з галоўнага — падбору кадраў. Арганізаваў агратэхнічны гурток, які рэгулярна наведвалі 40 калгаснікаў і калгасніц».**

Тав. Стахоўскі паставіў пытанне перад праўленнем калгаса—вылучыць для работы на парніковай гаспадарцы лепшых гурткоўцаў. Саковіч Вера, Таўгер Нохім, Варыкава Дуня, Варыкава Ксеня, Ракоўская і іншыя палюбілі гэту работу, вывучылі тэхніку парніковай гаспадаркі.

Хутка былі выпраўлены недахопы мінулага года. Наладзілі разбіўку парнікоў, зменшылі ўглыбленні катлавана, без чаго траціласся многа лішняга гною. Зрабілі чаны, дзе зліваласся вада для палівкі, і рэзультат атрымаўся зусім іншы, чым летась.

> **«Парнікі... далі калгасу 39 тысяч руб. чыстага валавога прыбытку».**

На гэтым яркім прыкладзе аршанская раённая газета **«Ленінскі прызыў»** у артыкуле «Растуць майстры высокага ўраджаю» пераканаўча паказвае, што «кадры вырашаюць усё», што поспех справы вырашаюць людзі.

Рэдакцыя «Ленінскага прызыва» разгарнула работу па рэалізацыі пастаўленай т. **Сталіным** задачы вырошчвання кадраў. У газеце сістэматычна даюцца падборкі і цэлыя паласы, прысвечаныя пытанню падрыхтоўкі кадраў.

Вакол майскай прамовы т. Сталіна газета праводзіць вялікую масавую работу. **«Падрыхтуем калгасныя кадры паляводаў, жывёлаводаў, радыстаў, шофераў, электраманцёраў»** — так азагалоўлена арганізаванае рэдакцыяй пісьмо калгаснікаў калгаса «Чырвоная ніва». У гэтым пісьме расказваецца аб тым, якая складаная тэхніка ўкараняецца ў калгасную вёску.

> **У 1929 г. мы не мелі ва ўсёй Асіпаўцы, — пішуць калгаснікі—ні адной сельскагаспадарчай машыны. У 1931 г. набылі жняярку-самаскідку. У 1932 г. купілі складаную малатарню, снопавязалку. Правялі ў калгасе электрычнасць. Яна асвятляе ўсе хаты калгаснікаў, будынкі і канюшні. Радыёфікаваны 43 двары. Электрычны матор пампуе нам ваду. Механізаваны многія працэсы работы».**

Але гэтая тэхніка дрэнна скарыстоўваецца. 1 ад гэтага:

> **«Мы церпім вялікія страты. Снопавязалка павінна зжаць за змену 6 га, а мы ў мінулым годзе зжыналі ледзь тры з паловай гектары».**

Каб ліквідаваць такое становішча і выканаць наказ правадыра аб вырошчванні кадраў, калгас вылучыў некалькі калгаснікаў на курсы электраманцёраў, садаводаў, жывёлаводаў, абавязаўся падрыхтаваць радыста.

> **«Адказаць на прамову тав. Сталіна ўпартай работай па вырошчванню новых кадраў».**

Такім заклікам да ўсіх калгасаў раёна заканчваецца пісьмо калгаснікаў «Чырвонай нівы».

Не толькі пытанні падрыхтоўкі кадраў для сельскай гаспадаркі ўзнімаюцца на старонках «Ленінскага прызыва». Шмат аператыўных матэрыялаў дана і аб падрыхтоўцы кадраў на прадпрыемствах, чыгунцы, у навучальных установах і т. д.

**Газета патрабуе адказваць на прамову т. Сталіна канкрэтнымі справамі.**

Асвятленне падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі газета таксама пачала з кадраў. Яна ўзяла пад свой нагляд курсы, якія праводзяцца пры райза і праз якія навінны прайсці 150 чалавек, адказных па ільну, 60 машынаведаў, 90 работнікаў па сушцы і апрацоўцы ільну, 60 рахункаводаў.

Падрыхтоўцы кадраў газета аддае нямат увагі. Але яна ўпускае пытанні барацьбы за рэалізацыю ўказанняў т. Сталіна аб тым, што трэба навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, праяўляць штодзенныя клопаты аб работніках «малых» і «вялікіх», на якім-бы ўчастку яны ні працавалі, аб цярплівым вырошчванні і выхаванні іх. Наконт таго, як кіраўнікі ўстаноў і арганізацый, партыйныя арганізацыі выконваюць гэтае ўказанне правадыра, вельмі мала на старонках аршанскай газеты. Амаль няма ў газеце рэзкага выкрыцця фактаў бяздушна бюракратычных адносін да работнікаў. Недастаткова паказвае газета знатных людзей калгасаў і прадпрыемстваў, людзей, аўладаўшых тэхнікай.

Рэдакцыі «Ленінскага прызыва» трэба ўлічыць, што барацьбу за большэвіцкае выкананне ўказанняў т. Сталіна нельга абмяжоўваць толькі пытаннямі падрыхтоўкі кадраў. Трэба ўзяць **усю суму пытанняў** клапатлівага вырошчвання і выхоўвання кадраў, пастаўленых т. Сталіным у гістарычнай майскай прамове.

# САМАКРЫТЫКА ЗДАНА Ў АРХІЎ

**«Палеская праўда»** на сваіх старонках часта змяшчае матэрыялы, накіраваныя па адрасу тых асоб, якія не зусім быстра рэагуюць на крытыку іх работы. Газета настойліва дабіваецца прызнання яе крытыкі. Іншы раз гэта настойлівасць нават пераходзіць у крыклівасць.

Аб гэтым можна меркаваць па загалоўках наасобных заметак:

«Вяльможа, якому законы не пісаны»...

«Крытыкуйце ўсіх, толькі не Шалагіна»... і т. д.

«Не зусім крытычна» — пад такім загалоўкам даецца агляд насценнай газеты **«Чырвоны парфюмершчык»**. Вывад артыкула: «на аснове шырокай крытыкі і самакрытыкі і выкрыцця галоўных недахопаў трэба»... і т. д.

Мяркуючы па гэтых матэрыялах, можна было чакаць, што рэдакцыя «Палескай праўды» (рэдактар тав. **Бугроў**) сама паказвае ўзор самакрытычнасці ў рабоце, што яна не саромеецца прызнання і выпраўлення сваіх памылак.

Можна было чакаць, што рэдакцыя «Палескай праўды» не стане следаваць прыкладу рэдкалегіі насценнай газеты Гомельскага цэнтральнага рабочага кааператыва **«За савецкі гандаль»**, у якой моцна ўкаранілася думка «не выносіць смецце з хаты» («П.П» ад 18/V-35 г.).

Рэдакцыя «Палескай праўды» правільна крытыкавала насценгазету «За савецкі гандаль», якая, перадрукаваўшы заметку рабкора Рабіновіча з «Палескай праўды» «Крытыка не ў пашане», абмежавалася наступнай «фармальна-бюракратычнай» («П.П.») адпіскай:

> **«Заметка, безумоўна, адпавядае сапраўднасці... У бліжэйшы час будзе склікана нарада рабкораў, дзе заметка будзе разгледжана для таго, каб на яе аснове выправіць дапушчаныя памылкі» (П. П.» ад 19-V-35 г.).**

Следаваць такому прыкладу «Палескай праўдзе» не да твару.

Але меркаванне — гэта адна справа, а практыка работы — зусім іншая. Гомельская газета сама робіць яшчэ горш, чым рэдакцыя насценгазеты «За савецкі гандаль». Тая хоць памылку сваю прызнала, а рэдакцыя «Палескай праўды» ўпарта не хоча гэтага рабіць. І ў «Па-

лескую праўду» ніякіх абвяржэнняў не наступае (прынамсі, у газеце яны ніколі не змяшчаюцца). Што-б ні напісала газета, хоць будзе гэта 10 раз няправільна, свята і непарушна.

Аб тым, што гэта так сведчыць наступнае.

«У клубе фабрыкі «Везувій» праходзіла надзвычайная канферэнцыя. Старшынствуючы, ён-жа дакладчык, сакратар парткома тав. Лебедзеў у акружэнні 70 рэбят высвятляў занадта важнае і цікавае пытанне дзіцячага жыцця.

Дакладчык запытаўся ў дзяцей: «Скажыце, чаму вас так многа екалачваецца каля забораў, ламаеце іх, пішаце на іх непрыгожыя словы? І яшчэ я хачу ад вас даведацца, чаму многія з вас тут прысутнічаючых хуліганяць, гавораць дрэнныя словы, збіраюцца там, дзе ім зусім непатрэбна быць?»..

«Сход хуліганствуючых дзяцей — «заборнікаў», «вісуноў» быў адным з многіх мерапрыемстваў, праведзеных парткомам фабрыкі «Везувій» у парадку падрыхтоўкі да партыйнага схода».

Гэта пісала «Палеская праўда» ў сваім перадавым артыкуле «Аб партдні па выхаванню дзяцей» ад 30/III-35 г.

«Ёсць яшчэ пасобныя комуністы, якія не па-партыйнаму адносяцца да сваіх дзяцей. Прыклад, Дзенцельскі з партарганізацыі міліцыі, сваёй 14-гадовай дачцы прадаставіў зусім самастойнае жыццё»

— пісала «Палеская праўда» ў тым, жа перадавым артыкуле ад 30/III-35 г.

Каментарыямі да гэтага перадавога артыкула будзе ніжэй прыводзімая пастанова бюро гомельскага гаркома партыі ад 30 красавіка 1935 г.

«Бюро гаркома КП(б)Б прымае да ведама заяву сакратара парткома ф-кі «Везувій» т. Лебедзева, загадчыка гарана т. Такарскага аб тым, што тав. Лебедзевым была праведзена гутарка з групай школьнікаў, знаходзіўшыхся каля клуба фабрыкі «Везувій», у рэзультаце якой для дзяцей пры клубе арганізаваны два пакоі, абсталяваныя ўсякімі іграмі, з дзецьмі-ж школьнікамі пачалася весціся больш сістэматычная масава-выхаваўчая работа.

Рэдакцыяй «П.П.» у сваім перадавым артыкуле за 30 сакавіка палітычна зусім няправільна асветлен гэты факт, які быў названы «канферэнцыяй-злётам хуліганствуючых дзяцей» у той час, калі НІЯКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ І НІЯКІХ ХУЛІГАНСТВУЮЧЫХ ДЗЯЦЕЙ ПАРТКОМ НЕ ЗБІРАЎ. ГЭТЫ-Ж ПЕРАДАВЫ АРТЫКУЛ «П.П.» ЗУСІМ НЕАБГРУНТАВАНА ЗАЛІЧАЕ ДЗЕНЦЕЛЬСКАГА — РАБОТНІКА МІЛІЦЫІ — У РАДЫ ПАРТЫІ, У ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЁН НІКОЛІ НЕ БЫЎ КОМУНІСТАМ. (Падкрэслена намі. — Рэд. «Б.Д.»).

Бюро ГК КП(б)Б лічыць, што гэта магло з'явіцца рэзультатам павярхоўнасці, адсутнасці прадуманай глыбокай работы над матэрыялам у апараце рэдакцыі, наяўнасці момантаў пагоні за сенсацыяй, што з'яўляецца варожым прынцыпам для большэвіцкага друку.

Бюро ГК КП(б)Б лічыць, што рэдактар «П.П.» Бугроў дапусціў грубую палітычную памылку, перадаверыўшыся работнікам рэдакцыі і тым самым праштампаваўшы палітычна-шкодны перадавы артыкул. Бюро ГК ставіць на від т. Бугрову, падкрэсліўшы, што яго памылка ўсугубляецца яшчэ тым, што ён НА ПРАЦЯГУ ЎСЯГО ЧАСУ НЕ ДАЎ НІ ПАПРАВАК, НІ КРЫТЫКІ ПЕРАДАВОГА АРТЫКУЛА. (Падкрэслена намі. — Рэд. «Б.Д.»).

Даручыць рэдакцыі «П..П» узмацніць удзел газеты ў комуністычным выхаванні дзетвары і даць разгорнутую крытыку дапушчаных памылак у перадавым артыкуле ад 30 сакавіка 1935 г.».

Каментарыі вельмі аўтарытэтныя.

Але мінуў яшчэ месяц і на старонках «Палескай праўды» самакрытычнага артыкула не паследавала. Не надрукавана ў газеце і гэта пастанова гаркома. Рэдактар т. Бугроў у сваім прынцыпе непарушны.

Ён абмежаваўся толькі тым, што ў перадавым артыкуле «Насустрач летнім канікулам» («П.П.» ад 13 мая) даў такі абзац:

«Нельга ні ў якім разе дапусціць такіх метадаў выхавання дзяцей, якія не так даўно глыбока памылкова прапагандаваліся нашай газетай. У перада-

вым артыкуле ад 30 сакавіка гг. мы
стеноўча адзываліся аб нібыта праве-
дзенай на фабрыцы «Везувій» «канфе
рэнцыі хуліганствуючых дзяцей» у той
час, як падобныя метады работы суро-
ва асуджаны нашай партыяй. Рэдак-
цыя «Палеская праўда» магла высту-
піць так толькі ў выніку нядобрасум-
ленных адносін да работы і прытуп-
лення пільнасці з боку паасобных ра-
ботнікаў».

І гэта па Бутрову называецца разгор-
нутай крытыкай сваіх памылак!

Не ў брыво, а ў вока т. Бутрову пры-
ходзяцца наступныя словы т. Сталіна:

«Я ведаю, што ў радах партыі ёсць
людзі, якія недалюбліваюць крытыку
наогул, самакрытыку ў асаблівасці. Гэ-
тыя людзі, якіх я мог-бы назваць «лакі-
раванымі» комуністамі... то і справа
бурчаць, адмахваючыся ад самакрытыкі:
моў, зноў гэта праклятая самакрытыка,
зноў выварочванне нашых недахопаў, ці
нельга даць пажыць нам спакойна».

Гомельскаму гаркому партыі прыдзец-
ца знайсці ключы і адчыніць дзверы для
крытыкі памылак рэдакцыі на старонках
самой «Палескай праўды».

# РАБІЦЕ КУЛЬТУРНУЮ, ГРАМАТНУЮ ГАЗЕТУ

## (АБ МОВЕ ГАЗЕТЫ «КАЛГ АСНІК КАРМЯНШЧЫНЫ»).

Ужо беглы прагляд старонак газеты
«Калгаснік Кармяншчыны» прымушае
пацікавіцца тым, як рэдакцыя гэтай
газеты працуе над мовай матэрыялаў,
як яна апрацоўвае і падае рабселько-
раўскія заметкі.

Вось нумар за 23 мая. На першай
старонцы вялікімі літарамі выдзяляецца
загаловак «Сабярэм сродкі на стаю но-
вых суда-птушак». Спакушаны чытач
кармянскай газеты ўжо прывык да без-
лічы апячатак, памылак, недакладнас-
цей, проста бяссэнсных месц у сваёй га-
зеце і чытае загаловак па-свойму, так,
як ён і павінен быў быць надрукован:
«Збярэм сродкі на стаю новых цуда-
птушак».

Напомнім, што заметку аб пабудове
новых самалётаў рэдакцыя кармянскай
газеты атрымала з Белта і ёй аставала-
ся толькі правільна перадрукаваць га-
товы апрацаваны матэрыял.

А вось частка загалоўкаў з таго-ж
нумара кармянскай газеты:

«Не дапусціць самацёка ў падпісцы
на пазыку».

«Прыняць меры да сабатажніка».

«Наладзіць комсамольскую паліт-
вучобу».

«Нападзіць дысцыпліну ў калгасах.

«Палепшыць догляд цялят».

«Ахапіць усіх калгаснікаў падпіскай
на пазыку».

У адным двухпалосным нумары шэсць
загалоўкаў, якія загадваюць «не дапу-
сціць», «наладзіць», «прыняць», «аха-
піць» і т. д.

Такія загадныя загалоўкі газета паў-
тарае з нумара ў нумар з той толькі
розніцай, што адзін загаловак пачы-
наецца словам «разбіць», а другі—
«спыніць», адзін—словам «узмацніць»,
другі—«паглыбіць». А часта бывае і
так, што побач стаяць два загалоўкі
амаль даслоўна падобныя адзін да ад-
наго.

Чаму так атрымліваецца? Газета
вельмі мала друкуе дадатнага матэрыя-
лу. Выходзяць цэлыя нумары «Калгас-
ніка Кармяншчыны», запоўненыя амаль
выключна заметкамі аб тых ці іншых
недахопах калгасаў. Газета не паказвае
добрую работу калгасаў і брыгад, амаль
зусім не піша пра лепшых ударнікаў-
калгаснікаў. Такі характар матэрыялаў
у пэўнай ступені абмяжоўвае магчы-
масці даць над заметкамі свежыя, ары-
гінальныя загалоўкі. Аднак, галоўная
прычына дрэнных загалоўкаў у кармян-
скай газеце ўсё-ж не ў гэтым.

Мы наўмысля ў пачатку артыкула
ўспамянулі агідна пададзены газетай за-
галовак над заметкай аб зборы сродкаў
на пабудову новых самалётаў-гігантаў.
Неахайнасць, нежаданне падумаць над

**загалоўкам, работа па прынцыпу «абы з рук»**—вось галоўная прычына таго, што дрэнныя загалоўкі заметак у «Калгасніку Кармяншчыны».

І не толькі загалоўкі. Пад дрэннымі загалоўкамі ў «Калгасніку Кармяншчыны» друкуецца дрэнна апрацаваны, сухі, казённы матэрыял.

Возьмем той-жа нумар газеты ад 23 мая.

З 27 заметак (не лічачы матэрыялаў Белта), змешчаных у гэтым нумары, 14 заметак пачынаецца так:

> «Калгаснікі калгаса імя Якаўлева...»
> «Аддзяленне калгаса імя Куйбышэва...»
> «Калгас «Чырвоны бераг»...
> «Калгас імя Якаўлева...»
> «У калгасе «Чырвоны колас»...»
> «Калгас імя Максіма Горкага...»
> «У калгасе «Чырвоны бераг»...»
> «Калгас «Памяць Леніна»...»
> «Птушкаводная ферма калгаса «Чырвоны бераг»...»
> «Калгаснік з калгаса імя Кірава...».
> «Брыгадзір калгаса імя Варашылава...»
> «У калгасе «Чырвоны бэрэц»...»
> «У калгасе «Комінтэрн»...» ·
> «У калгасе «Беларусь»...»

**Чатырнаццаць заметак у адным толькі нумары пачынаюцца аднолькавымі фразамі!** Гэта зусім не выпадковае супадзенне. Гэта ярка характарызуе аднасінасць работнікаў «Калгасніка Кармяншчыны» да апрацоўкі заметак.

Таварышы, якія апрацоўваюць матэрыял для газеты, не імкнуцца падаць заметку лепш, яркай, свежай мовай, мовай, якою гаворац масы калгаснікаў. Натуральна таму, што яны збіваюцца ўжо ў першых радках заметкі на казённы, пратакольны стыль. Таварышы запомнілі дзесятак шаблонных зваротаў накштальт «У калгасе такім-то...», «патрэбна хутчэй ліквідаваць...», «неадкладна выправіць...», «звярнуць увагу»... і карыстаюцца гэтымі збітымі і ўжо абрыдлымі чытачу зваротамі пры кожным выпадку. Таму і бедна мова кармянскай газеты, бедны запас слоў, якія ведаюць і якімі карыстаюцца работнікі газеты.

Можна падаць дзесяткі артыкулаў і заметак з «Калгасніка Кармяншчыны», у якіх безліч граматычных і стылістычных ляпсусаў, цяжка чытаемых месц.

У нумары 54-м надрукаван надзвычай няграматны артыкул «Узмацніць супроцьпажарную ахову ў калгасах». Вось месца з гэтага артыкула:

> **«Па калгасам: «Новы мір», Хізаўскага сельсовета, імя Ільіча, імя Молатава Задубскага сельсовета, «Ударнік Окцябра», Літвінаўскага сельсовета і амаль ва ўсіх калгасах Ворнаўскага сельсовета палец аб палец не ўдарылі ў гэтым напрамку.**

Выраз «палец аб палец не ўдарылі ў гэтым напрамку» надзвычай няўдалы. Між тым, аднаму з работнікаў рэдакцыі, відаць, гэты выраз асабліва спадабаўся, бо і ў другіх заметках «палец аб палец» сустракаецца досыць часта.

Відаць, што таварыш, які апрацоўваў заметку аб супроцьпажарнай ахове не патурбаваўся нават перачытаць тое, што апрацаваў. Сапраўды, аўтар хацеў выразіць мысль аб тым, што ў некаторых калгасах дрэнна ахоўваюць дабро ад агню, а вышла, што па калгасах «Новы мір» і інш. трэба было палец аб палец ударыць. Бязглуздзіца, таварышы з кармянскай газеты!

Не выдзяляецца граматнасцю і заметка **«У доме соцкультуры сёння... «нічога»** (№ за 18 мая), надрукаваная пад рубрыкай «замест фельетона». Падамо першы абзац гэтага «замест фельетона».

> **«Шэрай пеленой абцягнула неба. Відаць было, што сёння будзе дождж. Ад гэтай цемені стапавілася неяк скучна. У мазгу маладога парня абмяркоўваўся план, бо ён сёння добра папрацаваў і жадае свой вечар адпачываць. «Апе дзе?» «Куды пайсці?»— На хаду з вытворчасці да дому прамелькалі розныя планы».**

І так, «у мазгу маладога парня абмяркоўваўся план, бо ён сёння добра папрацаваў». Выходзіць добра папрацаваў... план, а не хлапец. Выходзіць, што з вытворчасці дадому ішлі таксама, планы, а не хлапец.

Істотным недахопам мовы «Калгасніка Карманшчыны» з'яўляецца тое, што работнікі рэдакцыі не прытрымліваюцца правіл дапасавання і кіравання паміж асобнымі часцінамі сказу.

У заметцы **«Вынікі кулацкіх адносін да працы»** (23 мая) стандартны пачатковы сказ надрукован так:

> **«У калгасе «Чырвоны бераг», Хляўнянскага сельсовета догляд за калгаснымі каровамі ВЫГАНЯЕМЫХ на пуг, пастаўлен вельмі дрэнна».**

Слова «выганяемых» ніяк не дапасоўваецца да слова «каровамі». Атрымалася-б правільна, калі-б напісалі «догляд кароў, выганяемых»...

У тым-жа нумары ёсць такі выраз:

> **«...І гэтая горстачка пажарнага інвентара не мае сталага месца, а валяецца дзе папала паламанымі».**

У сказе гутарка ідзе аб жменьцы інвентару (па няведанню беларускай мовы ў рэдакцыі «Калгаснік Карманшчыны» пішуць «горстачцы»), якая валяецца. Невядома чаму к слову «жменька» прыстаўлен прыметнік множнага ліку—«паламанымі». Ды і самы образ «горстачка інвентару» зусім няўдалы.

Прыкладам аказёньвання жывой газетнай мовы можа служыць такі сказ (заметка **«З поспехам закончылі вучэбны год»**):

> **«Па школе быў праведзен сход настаўніцкага совета».**

Сход настаўніцкага совета праводзіцца ў школе, а не **па** школе.

У заметцы «Тэхнічная пісаніна, а не рэалізацыя пазыкі» ёсць выраз:

> «Настаўнікі і нагой не заварачваюць у калгас».

Цяжка прыдумаць больш бязглузды выраз, чым «заварачваць нагой».

Мы падалі толькі некаторыя прыклады абураючай неграматнасці мовы «Калгасніка Карманшчыны», прычым вытрымкі ўзяты толькі з трох апошніх нумароў газеты.

Работнікі «Калгасніка Карманшчыны» павінны адсюль зрабіць адзін вывад: **Пара навучыцца рабіць зразумелую, граматную газету.**

# „Пры гэтым дасылаецца пастанова“...

Цяпер ужо рэдка можна сустрэць рэдактара раённай газеты, які найлепшым матэрыялам для газеты лічыць пастановы розных раённых арганізацый.

Але ўсё-ж знаходзяцца яшчэ газеты, якія вялікую частку сваёй плошчы запаўняюць пастановамі, часта малазначнымі, не прадстаўляючымі сабою цікавасці для большасці чытачоў, пастановамі, якія можна з поспехам давесці да таго, каму іх належыць давесці, паміма раённай газеты (вывешванне на відных мясцах, рассылка па сельсоветах і т. д.).

Аб гэтых вядомых ісцінах прыходзіцца ўспамінаць, чытаючы камплект нумароў смалявіцкай раённай газеты **«Шлях калектывізацыі».**

Занадта ўжо многа ў смалявіцкай газеце друкуецца пастаноў! Большая частка пастаноў належыць смалявіцкаму райвыканкому. Газета і месца стандартнае адвяла для «абавязковых пастаноў» райвыканкома: на апошняй старонцы. І друкуюцца гэтыя пастановы заўсёды адным і тым-жа мікраскапічным шрыфтом — петытам.

8-га красавіка ў «Шляху калектывізацыі» надрукаваны **дзве** «абавязковыя пастановы» РВК: аб правядзенні санітарных мерапрыемстваў у мястэчку і аб азеляненні мястэчка.

У наступным нумары знаходзім **зноў дзве** «абавязковыя пастановы»: адна — «аб барацьбе з скураным аваднём», другая — «аб ахове грамадскага парадку па раёну».

Пастановы не вылзяляюцца ні граматнасцю, ні зразумеласцю.

Паўстае пытанне: ці не лепш замест друкавання гэтых няграматных, доўгіх, пастаноў змяшчаць у газеце зразумела напісаныя заметкі, у якіх выкладаць рашэнне райвыканкома па тых ці іншых пытаннях?

Такія заметкі з цікавасцю прачытае кожны калгаснік, тады як «абавязковыя пастановы» наўрад ці прачытваюць нават дзесяць процантаў чытачоў смалявіцкай газеты.

Чаму-ж рэдакцыя Смалявіцкай газеты не робіць так?

На гэта пытанне пралівае святло дакумент, прысланы нам рэдактарам газеты «Шлях калектывізацыі» тав. **Старасценкам**. Вось гэты дакумент ва ўсёй яго першапачатковай недатыкальнасці:

**«Рэдакцыі газеты Ш. К.**

**тав. СТАРАСЦЕНКУ.**

**Смалявіцкі РВК патрабуя пропускаць чэраз друк усе дасланыя Вам абавязковыя пастановы для апублікования, падругоя просіць даць тлумачэння чаму не апублікована абавязковая пастанова аб проціпажарнай абароне і правілы даслання вам 28/III—35 г. і апублікаваць яе ў чарговым нумары газеты. Дальша ящэ дасылаецца 2-е абавязковыя пастановы, аб барадзьбе з лясными пажарамі і аб броканерстве і абстрэлє брадзячых сабак просім апублікаваць у чарговым нумары газэты.**

**Нам. старшыні РВК БІКМАН.**

**12 мая 1935 г.».**

Як бачыце з смалявіцкім райвыканкомам дагаварыцца вельмі цяжка. Нічога не хоча прызнаваць «нам. старшыні РВК Бікман»! Друкуй, моў, рэдактар, усё што ні прышлю: і аб брадзячых сабаках, і аб «броканерстве», прычым друкуй толькі пастановы, не асмелься выправіць нават граматычныя памылкі.

У смалявіцкім райвыканкоме сядзяць дзіўныя, незгаворчывыя людзі. Але ўсё-ж яны павінны зразумець, што раённая газета павінна быць раённай газетай, а не зборнікам «абавязковых пастаноў» райвыканкома.

## ІНСТРУКТАРЫ ЖУРНАЛА НА МЯСЦАХ

* * *

# За шыльдай аб'ектыўных прычын

* * * **М. САКАЛОЎСКІ, Ю. БЕЛЬКО.** * * *

Нядаўна ў мястэчку Лёзна адбыўся незвычайны сход. Сабраліся чытачы і рабселькоры паслухаць даклад аб задачах дня друку. Незвычайным мы назвалі гэты сход таму, што такія сходы ў раёне праводзяцца вельмі рэдка.

Дакладваў рэдактар раённай газеты «Ленінскі сцяг» **Я. Мінчукоў.** Спачатку дакладчык спыніўся на агульных задачах большэвіцкага друку, а ў канцы сказаў некалькі слоў і аб раённай газеце. Нельга адмовіць рэдактару ў самакрытычнасці яго ацэнкі сваёй газеты.

— Газета наша, — прызнаваўся рэдактар,—шэрая, нудная, мова газеты сухая, казённая, яна адпіхвае чытача.

Моцна сказана, што і гаварыць.

Так, шэрая і нудная, нагадваючая сухі цыркуляр, газета выдаецца ў Лёзне, у раёне, надзвычай багатым фактамі новага жыцця, у раёне з дзесяткамі добрых калгасаў, у раёне, які мае дзве МТС, пяць ільнозаводаў, ільнопрадзільную фабрыку, дамы адпачынку, санаторый, гукавы кіно-тэатр, электрычнасць, чыгунку.

Які рэзкі кантраст паміж багатым жыццём раёна і раённай газетай!

Але не да канца самакрытычны быў т. Мінчукоў. Калі-б рэдактар расказаў аб тым, чаму-ж дрэнная газета, як пастаўлена работа рэдакцыі, то многа цікавага пачулі-б чытачы і селькоры.

Мы дапоўнім т. Мінчукова і раскажам, чаму нудная, шэрая і часта бяззубая газета «Ленінскі сцяг».

На пытанне: чаму-ж усё такі рэдакцыя працуе дрэнна—ў Мінчукова гатоў стэрэатыпны адказ: «Няма людзей, няма з кім працаваць. Вось прычына».

Ці так гэта? Ці мала работнікаў у лёзненскай газеце?

У рэдакцыі працуе 6 чалавек. Для

раённай газеты з перыядычнасцю выхаду адзін раз у тры дні гэта не так ужо мала. З такой колькасцю работнікаў можна выпускаць жывую, цікавую, поўнасцю адлюстроўваючую жыццё раёна газету. Але для гэтага трэба кіраваць работнікамі, вучыць іх у штодзеннай рабоце, працаваць з рабселькорамі. Гэтых неабходных якасцей пакуль што няма ў кіраўніцтве рэдакцыі.

Працаваў у рэдакцыі т. **Лейбін.** Быў нам. рэдактара. Але праз тры месяцы т. Лейбін па нейкіх прычынах паказаўся рэдактару непрыгодным для работы ў газеце. Фактычна яго выжылі тт. Мінчукоў і сакратар рэдакцыі Горбараў. Але пасля гэтага т. Лейбін працаваў у палітаддзельскай газеце, там ён аказаўся годным. Кінула работу, прапрацаваўшы каля двух гадоў, і т. **Ізмайлава,** якую можна было скарыстаць на літрабоце.

У чым прычына цякучасці ў апараце рэдакцыі? Прычына ў нячулых адносінах да работнікаў, у тым, што іх не вучаць працаваць, не цікавяцца іх бытам, запатрабаваннямі. Так ужо цягнецца на працягу некалькіх гадоў.

Не лепшая справа і цяпер. Нядаўна ў рэдакцыю ўзят інструктарам комсамолец т. **Шуранкоў.** Малады, але здольны, падаючы надзеі работнік. Ён не мае пэўнай нагрузкі, яго трымаюць фактычна на пабягушках. Яму не дапамагаюць у рабоце. Як адносяцца да Шуранкова ў рэдакцыі? Прывядзем толькі адзін характэрны прыклад. Калі трэба паклікаць яго з суседняга пакоя, то сакратар рэдакцыі т. **Горбараў** гучным голасам спраўляецца:

— Куды гэта запрапасціўся наш малы парасёнак?

Выхадкам Горбарава ніхто адпору не дае.

Да рэчы, некалькі слоў пра т. Горбарава. У рэдакцыі ён працуе ўжо тры гады, з'яўляецца парторгам, але прыкладу ў рабоце ён, як член партыі і стары работнік, не паказвае. Над сабой не працуе, кніг не чытае, нават газеты павярхоўна праглядае, не ведае тэхнікі газетнай справы. Але ён лічыць сябе ўсёзнайкай і літаральна тэрарызуе работнікаў рэдакцыі, дае ім розныя мянушкі і т. д.

**Не выпадкова кандыдат партыі т. Нячаева,** таксама новы, але здольны работнік, якой трэба дапамагаць, заяўляе, што ў такой абстаноўцы адпадае ўсякая ахвота працаваць. Ніхто канкрэтна не кіруе, не дапамагае ў рабоце. Нячаева, як і Шуранкоў, таксама не мае пэўных абавязкаў.

Ніякай выхаваўчай работы ў рэдакцыі ніхто не праводзіць, няма нават вытворчых нарад, лятучак. Работніку не паказваюць, як трэба апрацоўваць карэспандэнцыі, не ўказваюць яго памылак, недахопаў. Тут не практыкуецца, каб работнік сам перапрацоўваў матэрыял, калі ён дрэннай якасці. Работнік падае матэрыял (часта абыяк напісаны) рэдактару, а той, на скорую руку выправіўшы гэты матэрыял, здае яго ў набор.

Таму не дзіва, што газета шэрая, з вельмі абмежаваным запасам слоў, абмежаванай тэматыкай. Не дзіва, што ў газеце сустракаюцца загалоўкі і шапкі падобныя да такіх:

«Справа брыгадзіра в кулацкага паходжання», «Дзе партмасавая работа ў загоне» і т. д.

Мы ўжо не гаворым аб тэксце, у якім безліч памылак граматычнага і сінтаксічнага парадку.

Агідна працуе рэдакцыя з рабселькорамі і пісьмамі працоўных. Перапіска з селькорамі выражаецца ў пасылцы кароткіх бюракратычных пісулек, як напрыклад: «Паведамляем, што ваша карэспандэнцыя ў газету не пойдзе, няма фактаў», або «Заметка не пойдзе, нічога канкрэтнага», або «Дробязь, у архіў».

Заметак з падобнымі рэзалюцыямі, накладзенымі Горбаравым, у рэдакцыі набралася вялікая папка. Людзі не затрудняюць сябе нават тым, каб да канца прачытаць кожную селькораўскую заметку. Неразборчыва прозвішча аўтара, ці назвы калгаса няма, ці нават почарк селькора дрэнны—гэтага для работнікаў рэдакцыі зусім даволі для таго, каб накіраваць заметку ў архіў. Мы знайшлі ў гэтым архіве дзесяткі заметак вельмі важных, вельмі сур'ёзных, сігналізуючых аб злачынствах, аб кулацкіх вылазках і т. д.

У архіве апынулася заметка з калгаса «Целяшы», выкрываючая злачынствы старшыні калгаса, разбазарванне калгаснай маемасці. Селькор не падпісаў пад заметкай свайго прозвішча. Гэта вырашыла лёс заметкі. Рэдакцыя не расследвала фактаў, указаных у допісе, і нават не паведаміла аб іх адпаведным органам. Аналагічная заметка паступіла з калгаса «Калгасны кліч». У ёй таксама прозвішча селькора не ўказана. І гэта заметка папала ў архіў, а к сур'ёзным сігналам селькора бюракраты з рэдакцыі асталіся роўнадушнымі.

Селькор Владзімір Тушкін прыслаў у рэдакцыю каштоўнейшую заметку аб тым, з якім уздымам у іх калгасе прайшла праверка выйгрышаў па аблігацыях пазык. Многія калгаснікі атрымалі выйгрышы. Каштоўнейшая заметка, літаральна клад для рэдакцыі, асабліва ў часе размяшчэння новай пазыкі. Як-жа гэта заметка апынулася ў архіве? У заметцы, бачыце, не ўказан адрас селькора Тушкіна. Толькі пяць мінут патрабавалася для таго, каб адшукаць у спісах селькораў прозвішчы Тушкіна і даведацца адрас.

17 красавіка пажылая калгасніца-селькорка (такіх мала ў раёне) Алена Зелянкова з калгаса «Вольная праца» прыслала ў рэдакцыю заяву аб тым, што старшыня калгаса збіў яе за тое, што яна крытыкавала яго ў насценнай газеце.

Заяву прачыталі і палажылі ў архіў. У рэдакцыі нічога не зрабілі для таго, каб дапамагчы селькорцы, каб выясніць гэту справу і злачынцу аддаць пад суд. Назаўтра аб справе селькоркі т. Зелянковай ужо забылі.

Два месяцы селькорка чакала расследвання справы, ці хоць-бы адказу рэдакцыі. Не дачакалася і сама прышла ў рэдакцыю. Расказала сваю справу, а работнікі рэдакцыі толькі рукамі развялі.

Ужо больш за месяц ляжыць заява селькора Марчанка аб арганізаваным на яго ганенні. У рэдакцыі не думаюць расследваць і гэту справу.

Вось да чаго давялі злачынныя, непартыйныя адносіны рэдакцыі лёзненскай газеты да селькораў і іх пісем.

Прабавалі мы выясніць, хто з работнікаў рэдакцыі адказвае за пісьмы селькораў. Назвалі Горбарава. «Работа» Горбарава з пісьмамі намі ўжо асветлена. Але апошні час Горбараў быў у выязной рэдакцыі ў калгасе. Хто-ж займаўся пісьмамі гэты час? Ніхто. Пісьмы валяліся на сталах, а часта і пад сталамі. Не ўсе пісьмы рэгістравалі. Улік пісем наогул заведзен толькі з 1 сакавіка. Скарыстанне пісем, паступіўшых да 1-га сакавіка, устанавіць не прадстаўляецца магчымасці.

А вось карціна скарыстання пісем, атрыманых з 1 сакавіка да 1 мая. Атрымала рэдакцыя за гэтыя два месяцы 496 пісем. Гэта прыблізна па 8 пісем у дзень — мізэрная лічба.

Скарыстаны пісьмы такім чынам: 189 (меншая палова) змешчаны ў газеце, 92 пісьмы накіраваны на расследванне і 215 пісем пакладзены ў архіў. Як-жа расследуюцца пісьмы? 92 пісьмы пасланы на расследванне, а адказы атрыманы толькі на 20.

Ці можна сказаць, што ў рэдакцыі «Ленінскага сцяга» не ведаюць указанняў партыі аб рабоце з селькорамі, з пісьмамі працоўных? Не, справа абстаіць не так. І рэдактар газеты Мінчукоў і комуніст Горбараў многа і прыгожа гавораць па гэтых пытаннях. Многа гавораць, а робяць непартыйныя, злачынныя справы.

Лёзненскі райком партыі аб становішчы ў рэдакцыі ведае, але ніякіх мер для паляпшэння работы газеты не прымае.

У сувязі са справай селькора С. Шэіна, пасля выступлення нашага журнала, райком КП(б)Б заслухаў інфармацыю т. Мінчукова. Зразумела, была вынесена і адпаведная пастанова. Але на гэтым справа і скончылася. Як рэдакцыя выконвае ўказанні райкома—ніхто не правярае.

Дрэнна кіруе Лёзненскі райком сваёй газетай, адсюль і ўсе тыя агіднасці, якія ёсць у рэдакцыі.

# КАДРЫ ЗАВОДЗКАГА ДРУКУ БАРЫСАВА

* * * Я. ЭСТЭРКІН. * * *

Шматтыражкі «**Чырвоны бярэзінец**» (орган парткома і фабкома фабрыкі «Пролетарская перамога»), «**Ударнік**» (орган парткома і фабкома камбіната «Комінтэрн») і «**Гута**» (орган парткома і заўкома шклозавода імя Домбаля) ні адным словам не абмовіліся аб апошніх рашэннях партыі па ўнутрыпартыйнай рабоце.

Гэтыя газеты абыйшлі моўчкі рашэнні пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і пленума ЦК КП(б)Б.

На фабрыцы «Пролетарская перамога», на шклозаводзе імя Домбаля партыйнае жыццё б'е ключом. Праводзіцца работа з спачуваючымі, тэарытычныя канферэнцыйі, партыйныя сходы, справаздачы комуністаў, ідзе праверка партыйных дакументаў і т. д. Горача і па-дзелавому абмяркоўваецца прамова тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі. Унутрыпартыйныя пытанні пачынаюць займаць ганаровае месца ў рабоце партыйных арганізацый гэтых прадпрыемстваў.

А газеты «Чырвоны бярэзінец» і «Гута» абыходзяць моўчкі важнейшыя пытанні партыйнай работы.

Лепш стаіць справа ў газеце «Ударнік». Гэта газета больш-менш сістэматычна асвятляе партыйнае жыццё. Але якасць матэрыялаў аб партыйнай рабоце, змяшчаемых ва «Ударніку», часта нізкая.

Забыванне пытанняў партыйнага жыцця газэтамі «Чырвоны бярэзінец» і «Гута», часта нізкая якасць матэрыялаў «Ударніка» сведчаць аб адарванасці гэтых газет ад партыйнага жыцця, аб слабым кіраўніцтве газетамі з боку партыйных арганізацый.

Хто рэдагуе гэтыя шматтыражкі?

Тав. **Мішкін**—рэдактар газеты «Чырвоны бярэзінец», **Гурвіч**—рэдактар газеты «Ударнік», **Брынг**—рэдактар газеты «Гута».

Усе тры рэдактары—маладыя газетныя работнікі, рабочыя-вылучэнцы, не атрымаўшыя ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі.

Толькі адзін з гэтых рэдактароў тав. Мішкін—член партыі. Гурвіч і Брынг—комсамольцы.

Парткомы прадпрыемстваў зусім недастаткова кіруюць сваімі газетамі, нічога не робяць для таго, каб зрабіць шматтыражкі баявымі органамі сваіх партарганізацый.

Шматтыражкі фактычна прадстаўлены самім сабе, ніхто не правярае іх работу, ніхто не ведае, што яны робяць, як выхоўваюцца рабкоры, работнікі насценгазет цэхаў і брыгад, як шматтыражкі куюць і выхоўваюць кадры большэвіцкага друку.

Чым займаюцца работнікі праверaных намі трох фабрычна-заводскіх шматтыражак?

Вось т. Гурвіч. Ён расказвае:

«Прыходжу на прадпрыемства ў 9 гадзін раніцы, да 2 гадзін дня хаджу па цэхах, правяраю выхад пасценгазет, праводжу нарады рэдактароў газет у часе абедзеных перапынкаў. Пасля гэтага я чытаю газеты, чытаю вельмі мала, бо для рэдакцыі газет не выпісваюць. прыходзіцца браць іх у заўкоме. У «Правде», «Комсомольской правде» і «Звяздзе» чытаю перадавыя, інфармацыю ТАСС, іншы раз прачытваю матэрыялы на партыйныя тэмы. Падвалаў, доўгіх артыкулаў я не чытаю. Чытка газет займае ў мяне не больш паўтары—дзве гадзіны. Потым выконваю розныя даручэнні парткома і іншых заводскіх арганізацый. На мяне ўскладзен абавязак складаць розныя рэзалюцыі, дагавары для брыгад, цэхаў і т. д. Быў нядаўна такі выпадак. У каапгасе адбылося выязное пасяджэнне парткома. Я на гэтым пасяджэнні не быў, а сакратар парткома тав. **Фіраго** даручае мне

пісаць пастанову парткома. Праўда, ён мне расказаў, што абмяркоўваў партком, аб чым гаварылі ў спрэчках. Больш двух гадзін пісаў я пастанову, але, зусім зразумела, што яна атрымалася агульнай, непрактычнай. Прышлося сядзець яшчэ дзве гадзіны над пераапрацоўкай гэтай пастановы.

Толькі ў 6—8 гадзін вечара я прыступаю да рэдагавання матэрыялаў для газеты. Іду з прадпрыемства не раней 10—11 гадзін вечара. Так кожны дзень. З мастацкай літаратуры чытаю мала, кіно наведваю рэдка».

**Тав. Брыкг** 2—3 разы ў месяц пасылаецца парткомам або камітэтам ЛКСМ у падшэфныя калгасы. Над матэрыялам для газеты працуе павярхоўна, з работнікамі цэхавых і брыгадных газет ніякай работы не праводзіць. З мастацкай літаратуры прачытаў за красавік кнігу Аўдзеенкі «Я люблю». Газеты чытае вельмі нерэгулярна. Займаецца ў вячэрнім рабфаку.

Тав. **Мішкін** лічыць, што ён на газетнай рабоце не можа працаваць. «Мяне гэта работа не цікавіць» — заяўляе ён. Мішкін скончыў толькі два класы пачатковай школы, рэдагаваць матэрыял яму вельмі цяжка. Над сабой ён амаль не працуе.

Вось што гавораць самі рэдактары газет аб сваёй рабоце, аб сваім росце.

Не лепшая справа з выхаваннем кадраў работнікаў нізавых насценгазет.

На фабрыцы «Пролетарская перамога» імя Кірава і шклозаводзе імя Домбаля ніякай работы з рэдактарамі і членамі рэдкалегій нізавых газет не праводзіцца. Яны прадастаўлены самім сабе. Газеты па месяцу і больш не выпускаюцца.

Што гавораць аб сваёй рабоце работнікі насценных газет?

**Тав. ЖУРАНКОВА**—рэдактар газеты каробачнага цэха фабрыкі «Пролетарская перамога», член партыі. Апрача работы рэдактара насценгазеты яна яшчэ і прафорг цэха. Такія дзве работы сумясціць ніяк нельга. У выніку з 160 чалавек рабочых цэха пішуць у газету чалавек 4. Апошні нумар газеты вышаў за першамайскіх свят. Калі выйдзе наступны нумар—рэдактар не ведае, бо «матэрыялаў няма».

«Працую рэдактарам газеты каля паўгода, ніхто не вучыць, як працаваць. Сама я малаграматная, скончыла ўсяго дзве групы. Газетную справу люблю, але ніхто не дапамагае ў рабоце. Чытаю газету «Звязда» і «Большэвік Барысаўшчыны». Толькі адзін раз атрымала журнал «Большэвіцкі друк». Рэдакцыя шматтыражкі раздае журнал нерэгулярна. Мастацкай літаратуры мала чытаю. Парторг цэха тав. **Навіцкая** ў рабоце не дапамагае. Яна толькі калі-ні-калі запытае, «калі будзе газета?»

**Тав. ХАЛЕЦКАЯ** Оля—рэдактар газеты зборачнага цэха, член ЛКСМ, камсамольскі арганізатар цэха. Апошні нумар газеты вышаў да першамайскіх свят.

«Газета «Чырвоны бярэзінец» не дапамагае мне ў рабоце. Як можаш, так і працуеш. Сходаў рабкораў ужо даўно не праводзіла. Займаюся ў палітшколе па ленінізму. З мастацкай літаратуры нічога не чытаю. Спецыяльна газетнай справе не вучаць».

Аналагічныя скаргі рэдактароў нізавых газет на заводзе імя Домбаля.

Тав. **Бушман**—рэдактар газеты шліфавальнага цэха № 2 і тав. **Драздоўскі**—рэдактар газеты шліфавальнага цэха № 1 скардзяцца на адсутнасць дапамогі з боку шматтыражкі і партарганізацыі. Ніхто імі не цікавіцца, ніхто не правярае іх работу, не кіруе імі.

Значна лепш работа пастаўлена на камбінаце «Комінтэрн». Пры рэдакцыі газеты «Ўдарнік» арганізован семінар для рэдактароў газет. Штодзенна праводзяцца нарады рэдактароў у часе абедзеннага перапынку па розных пытаннях работы. Праводзяцца вусныя агляды насценгазет. Рэдактар газеты тав. Гурвіч сочыць за работай газет, правярае іх, дае ўказанні рэдактарам.

Работа з рабкорамі, выхаванне актыва рабкораў на ўсіх прадпрыемствах Барысава пастаўлена зусім дрэнна.

Усё гэта гаворыць аб тым, што пытаннямі падбору, падрыхтоўкі і вырошчвання кадраў для фабрычна-заводскіх газет у Барысаве не займаюцца. Партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў не прымаюць сур'ёзных мер па паляпшэнню работы сваіх газет.

# Завочная пераклічка аб якасці прадукцыі

А. ПІМШТЭЙН

Рэдактар шматтыражкі «Кіравец» (завод «Чырвоны металіст» Віцебск).

Завод «Чырвоны металіст» імя Кірава выраблае 5 тыпаў станкоў. За два гады завод даў краіне звыш трох тысяч гэтых станкоў.

Як працуюць нашы станкі, якая іх якасць, якія недахопы яны маюць? На гэтыя пытанні могуць лепш за ўсё адказаць спажыўцы прадукцыі завода.

Рэдакцыя шматтыражкі **«Кіравец»**, якая выходзіць на заводзе, рашыла звязацца з гэтымі спажыўцамі — 300 прадпрыемствамі, дзе працуюць нашы станкі. Напісалі мы пісьмы дырэктарам, сакратарам парткомаў, рэдактарам шматтыражак, цэхавых газет і рабкорам гэтых прадпрыемстваў, папрасілі іх напісаць аб якасці нашых станкоў, аб іх недахопах.

Гэтым мы не абмежаваліся. Паслалі на прадпрыемствы Масквы і Ленінграда двух лепшых рабкораў сабраць на месцы матэрыял аб рабоце нашых станкоў.

Праз 5—6 дзён у рэдакцыю сталі паступаць водзывы. І тады мы адкрылі на старонках «Кіраўца» завочную пераклічку аб якасці прадукцыі завода.

Адкрыў пераклічку палітычна-завостраным «уступным словам» дырэктар Белметалтрэста т. **Левін.** У гэтым-жа нумары шматтыражкі мы змясцілі водзывы двух прадстаўнікоў буйнейшага нашага спажыўца — маскоўскага аўтазавода імя Сталіна т. т. **Наброцкага** і **Варкуліна** і прадстаўніка ленінградскага завода «Электроприбор».

**«На вашым абдзірачным станку «ОЗМ» нельга дэталі апрацоўваць з усіх бакоў; нельга падыйсці да яго з-за няўручнага распалажэння падручніка. Кожухі слабыя. Няма агараджэння на рамкі. Вашы варштаты атрыманы без матора і пускавога механізма. Грубая аддзелка» —**

пісаў т. Наброцкі.

Тав. Варкулін пісаў:

**«Зусім малая адлегласць паміж кругамі і таму з вялікай дэталлю да наждачнага камня нельга падступіцца. Нягодны па сваёй канструкцыі пыласосы і таму хутка забруджваюцца рукавы, фланцы разрываюцца. Нам прышлося іх перарабіць».**

З «Электроприбора» пісалі, што:

**«Неабходна абпільваць балты і куты злучальных планак, прадахраніцельны кожух зрабіць так, каб яго можна было закрываць і адкрываць на-хаду».**

У наступных нумарах рэдакцыя надрукавала выступленні прадстаўнікоў ад завода імя Марці (Одэса), завода імя Кулакова (Ленінград), імя Ланцуцкага (Гомель) і інш.

Адначасова са змяшчэннем гэтых пісем у газеце на ўчастках праводзіліся вытворчыя нарады па матэрыялах пераклічкі, рабочыя ўносілі прапановы, як палепшыць якасць выпускаемай прадукцыі.

На вытворчай нарадзе фармоўшчыкаў і фарбароў былі ўнесены наступныя прапановы: праверыць усе апокі і мадэлі, адліць для мадэлей металічныя знакі, здабыць графіт для фарбоўкі шыпак, адвесці спецыяльнае памяшканне для фарбоўкі станкоў і т. д. Выступленні рабочых на вытворчых нарадах мы шырока паказвалі на старонках газеты. Газета арганізавала выступленне тэхнічнага дырэктара завода т. **Крыгеля,** які расказаў аб мерапрыемствах тэхнічнага аддзела па паляпшэнню якасці прадукцыі. Зараз праводзім праверку правядзення ў жыццё прапаноў, вынесеных на вытворчых нарадах. І трэба адзначыць, што ў сувязі з завочнай пераклічкай якасць прадукцыі завода значна палепшылася.

налепшылася знадворная аддзелка станкоў.

Калі мы пачыналі гэту работу, знайшліся на заводзе скептыкі, якія гаварылі: «нічога ў вас не выйдзе». Гэтае няверʼе было зусім неўпрунтавана, яно разбілася аб практычныя вынікі нашай работы.

Завочная пераклічка ўзняла ўвесь рабочы калектыў завода на барацьбу за далейшае паляпшэнне якасці.

Мы лічым, што не шкодзіла-б і іншым фабрычна-заводскім шматтыражкам арганізаваць такія завочныя сустрэчы з спажыўцамі. У прыватнасці, гэта не шкодзіла-б зрабіць газеце менскага завода імя Варашылава. Такарныя станкі, якія выпускае гэты завод, прымушаюць жадаць многа лепшага. Наш завод атрымаў такарныя станкі завода імя Варашылава, частка гэтых станкоў адразу-ж вышла са строю.

Напісалі мы аб гэтым у шматтыражку **«Варашылавец»**, але рэдакцыя «Варашылаўца» чамусьці не палічыла патрэбным змясціць наш матэрыял.

# Як мы шэфствуем над транспартам

**ГІРШЫН.**

**Рэдактар газеты «За высокую якасць».**

Следуючы ўказанням т. Сталіна на XVII зʼездзе партыі, што «справу транспарта павінна ўзяць у свае рукі ўся партыя, уся краіна», партыйная, прафсаюзная і гаспадарчыя арганізацыі запалкавай фабрыкі **«Везувій»** разгарнулі вялікую работу па шэфству над чыгуначнай станцыяй Н.-Беліца.

Рабочы калектыў фабрыкі і калектыў станцыі адчуваюць сябе як адна сямʼя. На працягу 9 месяцаў шэфства фабрыка адрамантавала і прывяла ў культурны выгляд станцыйны перон. Станцыя радыёфікавана трыма радыёкропкамі. Адрамантаваны 3 стрэлачныя будкі. Вылучана пастаянная бібліятэка-перасоўка для абслугоўвання работнікаў станцыі, праведзены 4 сумесныя вечары старых кадравых рабочых фабрыкі і станцыі. Работнікі станцыі абслугоўваюцца клубам «Везувій» нароўні з рабочымі фабрыкі. Заключана 13 соцдагавароў паміж работнікамі станцыі, асобнымі цэхамі і брыгадамі фабрыкі. У выніку ўсёй гэтай работы станцыя за апошні час сістэматычна перавыконвае свой план, значна зменшыўся лік аварый.

ЦВК БССР адзначыў ударную работу па шэфству фабрыкі над станцыяй узнагародай лепшых арганізатараў шэфства тт. Элькіна і Варушчанка пачэснай граматай ЦВК БССР.

Немалую работу па шэфству над станцыяй праробіў фабрычны і пасценны друк. Фабрычная газета **«За высокую якасць»** уключыла ў план сваёй работы абслугоўванне насценгазет і рабкораў станцыі. Не праходзіла ні адна нарада рабкораў фабрыкі, дзе-б не прымалі ўдзел рабкоры станцыі. Амаль штомесячна выпускаецца збменная паласа фабрычнай газеты і насценгазеты станцыі. Выпушчаны два спецыяльныя нумары фабрычнай шматтыражкі па падшэфнай станцыі: адзін прысвечаны падрыхтоўцы станцыі і фабрыкі да зімы, другі вынікам шэфства фабрыкі за 4 квартал 1934 г.

У абодвух газетах лепшыя ўдарнікі станцыі і фабрыкі абменьваліся вопытам сваёй работы. Праведзен масавы рэйд сумесна з рабкорамі станцыі па падрыхтоўцы стрэлак да зімы.

Фабрычная газета і насценны друк сістэматычна асвятляюць, як выконваюцца самаабавязацельствы і соцдагаворы паміж цэхамі і станцыяй. Рэдактар насценгазеты станцыі т. **Майсеенка** атрымлівае ад нас канкрэтную дапамогу ў друкаванні матэрыялаў і мастацкім афармленні газеты.

# Аб адной таварыскай сустрэчы

На кватэры лепшага рабкора фабрыкі імя Кагановіча (Менск) тав. **Фішэльман** сабраліся 25 рэдактароў і членаў рэдкалегій насценгазет фабрыкі.

У таварыскай гутарцы рэдактары газет і члены рэдкалегій абменьваліся вопытам сваёй работы і вучобы. Гаварылі аб тым, як пачалі перабудоўваць работу пасля майскай прамовы тав. **Сталіна.**

Работнікі нізавых газет больш сур'ёзна ўзяліся за вучобу, за чытанне мастацкай літаратуры, за паднящце свайго палітычнага ўзроўню, за выхаванне рабкораў. Усё-ж работа з рэдактарамі нізавых газет і рабкорамі на фабрыцы стаіць не на належнай вышыні. Партарганізацыя, фабрычная шматтыражка не ўдзяляюць неабходнай увагі работнікам нізавога друку. У большасці рэдактары і члены рэдкалегій нізавых газет прадастаўлены самім сабе, вучоба іх не арганізавана.

Вось што расказваюць удзельнікі таварыскай сустрэчы.

Тав. **Мінкоў**—рэдактар насценгазеты мантажнага цэха—узяўся за ажыўленне работы рэдкалегіі. Было пастаўлена пытанне аб замене непрацаздольных членаў рэдкалегіі. Склад рэдкалегіі папоўнен новымі таварышамі — комсамольцамі-ўдарнікамі. На агульным сходзе рабкораў і рабочых цэха быў заслухан даклад аб Дні друку. Павялічыўся прыток матэрыялаў у газету.

«Але дрэнна ў нас з вучобай членаў рэдкалегіі, — гаворыць т. Мінкоў. — Шматтыражка **«Чырвоны абутнік»** гэтай справе не ўдзяляе належнай увагі. Сам я аддаю многа ўвагі чытанню мастацкай літаратуры. За апошні час я прачытаў Аўдзеенка «Я люблю», Ільіна «Большой конвейер», Берэзоўскага «Мать», «Ледоход» і т. д. Сістэматычна чытаю газеты «Комсомольская правда», «Рабочий». Але гэтага мала. Неабходна сістэматычная вучоба рэдактароў і членаў рэдкалегій».

Тав. **Гутаў**—рэдактар газеты цэха «Новы канвеер»—расказвае:

«У нашым цэху каля 45 рабкораў. Любое заданне рэдкалегіі яны акуратна выконваюць, але работы з гэтымі рабкорамі не вядзецца ніякай.

Сам я займаюся ў палітшколе. З мастацкай літаратуры чытаў «Дрыгву» Якуба Коласа, сістэматычна чытаю журналы «Большэвіцкі друк» і «Рабоче-крестьянский корреспондент». Спецыяльная газетная вучоба ў нас не арганізавана, а я вельмі хачу аўладаць газетнай справай».

Аб гэтым-жа гаворыць і тав. **Кац** — рэдактар газеты закройнага цэха. Гэта газета арганізавала ва ўсіх брыгадах рабкораўскія пасты. Рабкораўскія пасты паведамляюць рэдкалегіі аб кожным цікавым факце работы брыгады і паасобных рабочых. Матэрыялу для газеты хапае. За апошні час расшырылася тэматыка газеты, змяшчаецца матэрыял па пытаннях партыйнай работы, здачы дзяржтэхэкзамена, работы зотаўцаў і т. д. Але сам Кац мала працуе над сабой, мала чытае мастацкай літаратуры. А шматтыражка не падумала аб тым, каб наладзіць вучобу рэдактароў, дапамагчы таму-ж Кацу ў выбары кніг для чытання.

Да III усебеларускага з'езда рабсelькораў існаваў семінар рэдактароў насценгазет пры фабрычнай газеце. Скончыўся з'езд рабселькораў і семінар спыніў сваю работу,—скардзіцца рэдактар насценгазеты закройнага цэха т. **Добкіна.** Яна патрабуе ад рэдакцыі «Чырвонага абутніка» арганізаваць вучобу рэдактароў, рэкамендаваць кнігі для чытання, дапамагчы рэдактарам у набыцці неабходнай літаратуры, у выпісцы цэнтральных газет.

Няма на фабрыцы належных клопатаў аб работніках нізавых газет, аб іх выхаванні—аб гэтым гаварылі амаль усе ўдзельнікі нарады.

Трэба спадзявацца, што пасля гэтай нарады партарганізацыя абутковай фабрыкі і рэдакцыя шматтыражкі «Чырвоны абутнік» сур'ёзна возьмуцца за вырошчванне і выхоўванне кадраў нізавога друку і рабкораў.

**Я. С.**

**Пасля экскурсіі рэдактароў фабрычна-заводскіх газет БССР**

# Узбагацілася тэматыка газеты

Удзел у арганізаванай рэдакцыяй «**Большэвіцкага друку**» экскурсіі рэдактароў шматтыражак дапамог мне палепшыць работу рэдагуемай мною газеты. Аб тым, як я пераношу ў газету вопыт работы фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда, я і хачу падзяліцца з рэдактарамі нашых шматтыражак.

Перш за ўсё я сабраў агульна-заводскую канферэнцыю рабкораў і расказаў, як працуюць маскоўскія і ленінградскія фабрычна-заводскія газеты.

Прапрацавалі мы вопыт работы гэтых газет і на рабкораўскім семінары. Узбагацілася тэматыка газеты. Лепш сталі асвятляць партыйнае жыццё на заводзе. У радзе нумароў мы паказалі, як растуць асобныя члены партыі, як дапамагае партком у іх рабоце. На старонках газеты выступілі комуністы Кірзнер, Мілікоўскі, Мірскі і інш. Шматтыражка пачала больш асвятляць падрыхтоўку і правядзенне партыйных сходаў. У адным з нумароў мы паказалі падрыхтоўку да партыйнага дня, як выконваюцца рашэнні партыйных сходаў. Паказалі мы і якасць партыйнай вучобы на заводзе.

Пытанняў культуры мы раней зусім не ўздымалі на старонках нашай газеты. Цяпер-жа культурныя пытанні займаюць галоўнае месца ў газеце. У адным з апошніх нумароў мы далі такі аддзел: «**Як вы думаеце правесці летні адпачынак**». Змясцілі ў гэтым аддзеле патрабаванні, якія прад'яўляюць рабочыя заўкому: арганізацыя калектыўнага чытання мастацкай літаратуры на вольным паветры, катанне на веласіпедах, правядзенне маёвак і т. д. Змясцілі мы ў гэтым нумары і рэцэнзію на кнігу «Как закалялась сталь», паказалі лепшых чытачоў мастацкай літаратуры.

Завялі ў шматтыражцы аддзел унутрызаводскай інфармацыі: «**Навіны завода за пяціднеўку**». Тэматыка інфармацыі рознастайная: пытанні фізкультуры, чытанне кніг, паездкі на экскурсіі, азеляненне завода, увядзенне новых працэсаў работы і т. д. Гэты аддзел у газеце з'яўляецца самым цікавым і рознастайным.

Значна ажывілі работу з рабкорамі. Правялі паход 20 рабкораў у кіно на карціну «Летчики» і зараз арганізуем водгукі аб карціне, якія дамо ў газеце. Партком вынес пастанову аб вылучэнні двух соцнамеснікаў рэдактара, якія будуць вызвалены ад іншых партыйных нагрузак. Соцнамеснікі будуць працаваць па заданнях шматтыражкі (арганізацыя матэрыялу, правядзенне рэйдаў, праўка матэрыялаў, складанне макетаў і т. д.).

Мы пачынаем практыкаваць зараз такі метад. Бярэм адну насценгазету, праверваем, як яна падае матэрыялы, яе афармленне, мову, загалоўкі, «шапкі» і на вялікім лісце паперы даем агляд гэтай газеты, указваем, што ў ёй добра і што дрэнна. Вывешваем такія агляды ў сталовай для таго, каб кожны рэдактар, кожны рабкор маглі іх прачытаць.

Вось кораценька аб тым, як я рэалізую вопыт, атрыманы мною ў Маскве і Ленінградзе. Вельмі цікава і карысна будзе, калі астатнія ўдзельнікі экскурсіі раскажуць на старонках «Большэвіцкага друку», як яны пераносяць атрыманы ў часе экскурсіі вопыт у свае газеты.

**МІНКІН—рэдактар шматтыражкі «Рабочае вока», Менск, завод «Большэвік».**

# Экскурсія дапамагла мне ў рабоце

Я прымаў удзел у арганізаванай журналам **«Большэвіцкі друк»** экскурсіі рэдактароў шматтыражак на прадпрыемствы Масквы і Ленінграда для вывучэння вопыта работы нізавога друку.

Трэба сказаць, што экскурсія мне многа чаго дала ў паляпшэнні работы сваёй штодзенкі.

У нашай брыгадзе дрэнна абстаяла справа з культмасавай работай. Пасля экскурсіі я гэта ўлічыў і правёў праз штодзенку некалькі мерапрыемстваў па ажыўленню культработы. Па ініцыятыве газеты зараз праводзяцца калектыўныя чыткі кніг і газет, калектыўныя паходы ў кіно, тэатр, створана брыгада для праверкі культурна-бытавых умоў рабочых.

Раней у мяне слаба абстаяла справа з рэагаваннем на заметкі, змешчаныя ў штодзенцы. Цяпер рэагаванне значна палепшылася. Вось, напрыклад, нядаўна была ў штодзенцы заметка аб тым, што работніца Волкава дае дрэнную якасць прадукцыі і парушае працоўную дысцыпліну. Назаўтра-ж на сходзе рабочых мы абмеркавалі гэту заметку, рэзка крытыкавалі Волкаву, і яна дала слова, што больш гэтага не будзе. Сваё слова Волкава стрымала, стала працаваць на многа лепш.

Па прыкладу насценгазет маскоўскага завода «Шарикоподшипник» мы цяпер многа лепш афармляем нашу штодзенку, часта змяшчаем карыкатуры, розныя малюнкі і т. п.

У бліжэйшыя дні думаю ўзняць у штодзенцы пытанне аб арганізацыі фізкультурнай работы і летняга адпачынку.

Вопытам работы насценгазет фабрык і заводаў Масквы і Ленінграда я падзяліўся з усімі рэдактарамі насценгазет фабрыкі. І трэба сказаць, што многае з гэтага вопыта пераносіцца ўжо ў работу большасці нашых брыгадных газет.

**БІНДМАН Г. М.—рэдактар штодзенкі «Баявы кліч» (цэх польтаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»).**

## ПА СТАРОНКАМ ЗАВОДЗКАГА ДРУКУ

★ ★ ★

### ТЭХНІЧНАЯ ГАЗЕТА РАБОЧЫХ ЗАВОДА «БОЛЬШЭВІК»

22 мая вышаў трэці нумар друкаванай газеты рабочых завода «Большэвік» — **«За перадавую тэхніку».** Газета ставіць задачай дапамагчы рабочым завода ў масавым аўладанні тэхнікай, у ператварэнні завода «Большэвік» у завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці. У трох вышаўшых ужо нумарах газета ўзняла рад новых пытанняў, як, напрыклад, падрыхтоўка дышломных работ зотаўцамі, новыя спосабы варкі клею і інш. Газета друкуе аддзел «Новае на хромавых скурзаводах СССР», дае кансультацыі, змяшчае артыкулы па тэхніцы апрацоўкі скур і інш.

### ШМАТТЫРАЖКА «КУЙБЫШЭВЕЦ» АБ ДЗЕЦЯХ

**«Куйбышэвец»** — газета менскай галантарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва—ў адным з апошніх сваіх нумароў прысвяціла адну старонку спецыяльна дзецям. У старонцы выступаюць работніцы, доктар, які расказвае аб асноўных правілах догляду дзяцей. Работніца тав. **Валахянская** ў заметцы «Як я выхоўваю сваіх дзяцей» расказвае аб сваіх васьмігадовай Соні і чатырохгадовым сыне Вове, якіх бацькі акружылі штодзеннай увагай і клопатамі.

Работніца **Кандрацюк** расказала аб разумовым і фізічным развіцці яе дзіцяці ў дзіцячым садзе.

У заключэнне гэтай паласы шматтыражка змясціла ўрыўкі з кнігі К. Чукоўскага «Мойдодыр», якую раіць, каб рабочыя прачыталі сваім дзецям.

## ЗАМЕСТ АГЛЯДАЎ НІЗАВОГА ДРУКУ

* * *

# Каму даверылі насценную газету?

Справа была ў сакавіку. У калгасе «Новае жыццё», Крынкаўскага сельсовета, Лёзненскага раёна, адбываўся агульны сход. Сярод іншых пытанняў у парадку дня стаяла і такое: аб дапамозе няпоўнай сярэдняй школе засеяць прышкольны ўчастак.

Калгаснікі ніколі не адмаўляліся дапамагаць школе. Але яны былі занепакоены адной акалічнасцю. Прадстаўнік ад школы настаўнік старэйшых класаў **Ляснічы**, ён-жа і рэдактар агульнакалгаснай насценгазеты **«Калгасны ўдарнік»**, прасіў для засеву прышкольнага ўчастка аўса. Пасыпаліся здзіўленыя пытанні:

— Дзе дзеўся ўраджай, зняты з участка ў мінулым годзе?

— Чаму ў мінулым годзе небыло гарачых снеданняў?

А брыгадзір трэцяй брыгады т. **Паўлючкоў** кінуў рэпліку:

— І нашто гэта школе сеяць авёс. Ці не думае яна яго скарыстаць на гарачыя снеданні?

Яго словы згубіліся ў звонкім смеху калгаснікаў. Аўса калгас школе не даў.

Затаіўшы супроць Паўлючкова злосць не толькі за гэту рэпліку, а за іншыя выпадкі крытыкі, ні з чым пашоў са схода Ляснічы.

**
*

— Іван, а Іван, дзе брыгадзіры? — пытаецца адзін калгаснік у другога.

— Не брыгадзіры, а буслы,—папраўляе Іван.

— А дзе працуюць калгаснікі трэцяй брыгады?

— Не калгаснікі, а лягушкі, — зноў папраўляе Іван.

— Ты што абалдзеў, ці што?—не вытрымаў пытаўшы.

— Я не абалдзеў, можа абалдзеў рэдактар нашай насценгазеты, — адказаў Іван і яны разам падышлі к № 2 насценгазеты «Калгасны ўдарнік». Тады сталі зразумелымі папраўкі Івана.

У насценгазеце, калі яе можна так назваць, змешчаны былі дзве заметкі і адна карыкатура. Апошняя прыцягнула ўвагу ўсіх калгаснікаў. Вось яе змест. На выдраным з сшытка лістку паперы быў намалёван бусел, каля бусла — лягушкі. Зверху надпіс:

**«Брыгадзір, які аджыў свой век».** Пад карыкатурай напісана: **«Роля брыгадзіра ў часе пасеўнай».**

Зразумела, што ўсе калгаснікі былі абураны гэтай карыкатурай, накіраванай супроць брыгадзіраў і калгаснікаў. З-за гэтай карыкатуры тырчаць аслiныя вушы класавага ворага, які імкнецца скампраметаваць брыгадзіраў і лепшых калгаснікаў.

Старшыня калгаса кандыдат партыі т. **Салаўёў** замест таго, каб адразу-ж зняць газету з гэтай кулацкай карыкатурай і растлумачыць калгаснікам яе шкоднасць, піша ў рэдкалегію, каб далі тлумачэнне «што гэта значыць». У № 3 «Калгаснага ўдарніка» з'явілася і «тлумачэнне». Яно нікольκі не лепшае па свайму зместу за карыкатуры. Тут растлумачваецца, што **«пад буслам трэба разумець брыгадзіра Паўлючкова, пад лягушкамі—яго брыгаду».** Толькі пасля гэтага «тлумачэння» т. Салаўёў, нарэшце, зразумеў, «што гэта значыць» і зняў газету. Толькі пасля гэтага ў калгасе здагадаліся, што Ляснічы не забыў рэпліку Паўлючкова.

Калгаснікі калгаса «Новае жыццё» абураны і тым, што газету выпускаў сам Ляснічы. Ні аднаго разу ён не склікаў рэдкалегію. І гэта зразумела чаму. Праз газету ён помсціўся тым, хто яго калі-небудзь крытыкаваў. Калгаснікі так і заяўляюць:

— Ляснічы тады выпускае газету, калі яго хто-небудзь моцна пакрытыкуе.

Спадзяемся, што гэтай справай сур'ёзна зоймецца лёзненскі райком КП(б)Б, бо выпадак у насценгазеце «Калгасны ўдарнік» сведчыць аб дрэнным кіраўніцтве нізавым друкам і рэдакцыі газеты Высачанскай МТС (рэдактар т. **Барыскін**), і рэдакцыі раённай газеты «Ленінскі сцяг» (рэдактар т. **Мінчукоў**), і асобных комуністаў, якія працуюць у калгасах.

**М. САКАЛОЎСКІ.**

# Адна з лепшых на 10 дыстанцыі пуці









Карыкатуры насценнай газеты „Па сталінскаму пуці"

8 мая. У клубе станцыі Віцебск збіраўся злёт рабкораў-чыгуначнікаў. Каля выставы насценных газет сабралася група дэлегатаў злёта. Увагу рабкораў прыцягвае газета 3-га акалодка 10 дыстанцыі **«Па сталінскаму пуці»** (рэдактар т. **Слепухін**).

— Добрая газета—адна з лепшых на дыстанцыі — дзяліліся ўражаннямі дэлегаты. Змест газеты, красачны загаловак, малюнкі, карыкатуры—ўсё падпарадкавана задачы ўмацавання транспарта, выкананню ўказанняў наркома шляхоў зносін тав. **Кагановіча.**

Пачаўся злёт. Рабкоры гаварылі аб рабоце нізавых газет пуці, дэпо, станцыі. Аб рабоце газеты «Па сталінскаму пуці» расказваў злёту член рэдкалегіі тав. **Шэцько.**

— «У рэдкалегіі ў нас чатыры чалавекі. Адзін — адказны рэдактар, другі — адказны за мастацкае афармленне і два члены рэдкалегіі — арганізатары матэрыялу. Адным з актыўных членаў рэдкалегіі з'яўляецца стары рабочы **Унгейціс.** У яго вялікі вопыт работы на транспарце і сваімі ведамі ён практычна дапамагае ў штодзеннай рабоце рэдкалегіі. Калі Унгейціса выбралі ў рэдкалегію, ён заявіў: «чыгунку я добра ведаю, бо працую тут ужо 30 год, а вось у газеце яшчэ ніколі не працаваў. Не ведаю, ці справўлюся з такой работай». А зараз тав. Унгейціс спраўляецца з работай не горш за другіх членаў рэдкалегіі.

Рэдкалегія здолела акружыць сябе рабкораўскім актывам у 26 чалавек. Прыцягнуты да работы і жонкі рабочых. Сёння мы прэміруем адну з нашых актыўных рабкорак хатнюю гаспадыню Скарынкіну.

Рабочыя палюбілі газету за яе дзейснасць, за практычную дапамогу, якую яна аказвае рабочым па аўладанню тэхнікай, па паляпшэнню бытавых умоў рабочых, ажыццяўленню загада наркома тав. Кагановіча.

Каб дапамагчы рабочым лепш асвоіць тэхніку вытворчасці, у газеце ўводзіцца «тэхнічны аддзел». 11 сакавіка рабочыя маглі ў гэтым аддзеле прачытаць артыкулы «Земляное палатно» і «шпалы».

**«Для паляпшэння работы земляного палатна робяцца канавы, пад назвай кюветы. Шырыня іх унізе роўна 40 см., а глыбіня 60 см...»**

І тут-жа газета ўказвае, як робяцца гэтыя кюветы, як і якія шпалы трэба ўкладваць на лініях першага, другога і трэцяга класаў. У наступным нумары мы чытаем тэхнічныя ўказанні аб агараджванні месц, дзе ёсць перашкоды для руху.

Гэты артыкул суправаджаецца асобным малюнкам, які паказвае наглядна сістэму агараджвання.

* * *




Карыкатура з насценгазеты «Па сталінскаму пуці».

У цэнтры работы газеты пастаўлена барацьба з аварыямі і крушэннямі. Газета «Па сталінскаму пуці» ўказвае, што большасць аварый і крушэнняў здараюцца па віне няспраўнасці пуці, па віне парушэння правіл агараджэння, сігналізацыі і тэхнічнай эксплаатацыі.

**«...Пуць павінна поўнасцю забяспечваць безапаснасць руху цягнікоў. Ад пуці ў першую чаргу залежыць безапаснасць руху. 30 проц. усіх сходаў з рэек праісходзіць з-за няспраўнасці пуці, злома рэек...»**

Газета арганізоўвае праверку становішча пуці свайго ўчастка. На сваіх старонках узнімае пытанне аб рамонце пуці, аб своечасовай падрыхтоўцы кадраў і інструментаў. У адным з нумароў газета паказвае «**Якім павінен быць пуцявы інструмент**» і як яго падрыхтаваць. Газета ўлічыла ранейшыя памылкі, калі з-за няспраўнасці інструмента (лапаты, кіркі, торцавых ключоў і т. д.) зніжалася прадукцыйнасць працы, часамі невыконвалася вызначаная норма.

Праз некалькі дзён рэдкалегія арганізоўвае праверку выканання сваіх прапаноў. У наступным нумары штодзенкі мы ўжо чытаем, што тав. **Сталяроў** выканаў свой соцыялістычны дагавор па падрыхтоўцы к летнім работам. Ён зрабіў 10 штук бярозавых ручак для лапат, прывёў у парадак увесь інструмент. У газеце паказваліся і недахопы работы паасобных брыгадзіраў і рабочых. Трапнай карыкатурай высмейваліся лодыры, гультаі.

Яшчэ за два месяцы да пачатку рамонту пуці, газета разгарнула масавую работу пад лозунгамі: «ніводнай аварыі цягнікоў па віне пуці. Поўнае выкананне тэхнічных правіл рамонту пуці, агляду стрэлак».

Вельмі важным у барацьбе з крушэннямі і аварыямі з'яўляецца веданне новых правіл сігналізацыі, тэхнічнай эксплаатацыі. Змяшчаючы на сваіх старонках матэрыял аб новых правілах сігналізацыі, газета арганізоўвае рабкораўскі рэйд па праверцы сігнальнай маемасці.

Рабкор Унгейціс першы прыводзіць у парадак усе сігнальныя ліхтары, сцяжкі, ражкі і прымае ўдзел у рэйдзе праверкі становішча сігнальнай маёмасці ў другіх брыгадах.

Пад загалоўкам «Правер свае сігналы» газета піша:

**«... Сігнальныя флажкі, фанары, павінны быць у поўнай спраўнасці і чыстаце. Бо гэта ёсць папярэджваючыя меры супроць аварый і крушэння...»**

Так газета з нумара ў нумар вядзе барацьбу за ажыццяўленне загада тав. Кагановіча. І невыпадкова трэкі акалодак у дзесятай дыстанцыі, які быў раней на 16 месцы, зараз вышаў у перадавыя.

Рэдкалегія газеты «Па сталінскаму пуці» зусім заслужана прэміравана 300 рублямі.

**Р. СІМХОВІЧ.**



Карыкатуры з насценнай газеты „Па сталінскаму пуці"

# ЧАМУ МАЎЧЫЦЬ „СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ТРАНСПАРТ“

У сёмым акалодку 10 дыстанцыі пуці (Віцебск) пачала выходзіць насценгазета. Лепшыя ўдарнікі-пуцейцы былі выбраны ў склад рэдкалегіі. Сярод іх былі і тт. **Каржэль** і **Караеўскі**. Рэдактарам выбралі парторга (ён-жа і прафорг) т. **Марчука**.

Спачатку рэдкалегія актыўна ўзялася за работу. Газета паказвала ўдарнікаў, ганьбіла гультаёў, паказвала на недахопы ў рабоце паасобных рабочых чыгуначнікаў. У дваццатым нумары насценгазеты ад 10 сакавіка газета паказвае члена рэдкалегіі Караеўскага, як лепшага ўдарніка акалодка. І сапраўды, т. Караеўскі ўдарна працаваў на вытворчасці, рос на рабкораўскай рабоце. Ён жорстка крытыкаваў недахопы асобных людзей.

Усё было добра да таго часу, пакуль Караеўскі не пачаў крытыкаваць адміністрацыю акалодка і парторга Марчука.

У сакавіку гэтага года Караеўскі становіцца рабкорам газеты «Соцыялістычны транспарт». 16 сакавіка ў № 31 «Соцыялістычнага транспарта» змяшчаецца яго заметка «Марчук «арганізаваў».

Газета пісала:

> **«На 7-м акалодку 10 дыст. пуці зараз спакойна... У свабодны час і рабіць няма чаго. Між тым набліжаецца сяўба, трэба было-б пачаць падрыхтоўку, але ніхто яшчэ не ведае, дзе будзем пахаць, засяваць свае агароды і ці ёсць насенне. Яшчэ з восені рабочыя ўзнялі пытанне аб засыпцы насення, бульбы, аб арганізацыі агульнага склепа і пакупкі каня. Арганізаваць усё гэта ўзяўся парторг т. Марчук. Але ўсё гэта засталося толькі пажаданнем...»**

11 красавіка ў «Соцыялістычным транспарце» ў заметцы «Прарыў на 7-м акалодку яшчэ не ліквідаван» ускрываюцца сістэматычнае п'янства, спекуляцыя дарожнага майстра Аляксеева, брыгадзіра Старшука і інш.

Гэта не спадабалася «начальству» акалодка. Пачалося наступленне на тых, хто праўдзіва выкрывае недахопы работы 7-га акалодка.

Начальнік дыстанцыі пасля выступлення газеты аддае загад, па якому дарожны майстар 7-га акалодка Аляксееў пераводзіцца ў брыгадзіры, брыгадзір 1-га аддзялення Старшук рамонтным рабочым, рамонтны рабочы Гаўловіч пераводзіцца ў 8-мы акалодак.

Але загад астаўся толькі на паперы. Кампанія п'яніц і спекулянтаў застаецца на сваіх месцах і пачынае здзекавацца над рабкорамі, членамі рэдкалегіі. Парторг Марчук, таксама пакрыўджаны крытыкай, прадастаўляе ім для гэтага старонкі насценгазеты, якую ён рэдагуе.

Перш-на-перш Марчук пачынае збіраць матэрыял пра Караеўскага. Паасобным рабочым ён дае спецыяльнае заданне пісаць у газету пра Караеўскага і Каржэля. А калі рабочыя адмовіліся пісаць пра іх адмоўнае, Марчук піша сам, узводзіць на Караеўскага розныя паклёпы. Брыгадзіра, члена рэдкалегіі Каржэля, які падтрымліваў Караеўскага, адміністрацыя акалодка паспела зняць з работы нібы за прапажу лапы.

Жонку Караеўскага Казлову пазбаўляюць карткі ўдарніцы.

Караеўскага і Каржэля адхіляюць ад работы ў рэдкалегіі. Газету выпускае сам Марчук.

У 32 нумары насценгазеты ад 14 красавіка змяшчаецца заметка «Неправераныя слухі», у якой Марчук апелюе «к масам» на крытыку работы 7 акалодка палітаддзельскай газетай «Соцыялістычны транспарт».

Усе гэтыя факты былі праверааны і ўстаноўлены спецыяльным расследваннем.

Аднак, «Соцыялістычны транспарт» чамусьці да гэтага часу не выступіў з матэрыялам аб агіднейшых фактах зажыму самакрытыкі, аб здзеках над лепшымі рабкорамі.

Па Віцебскаму вузлу факты зажыму самакрытыкі не адзіныя. Тым больш дзіўна, што да гэтага часу не прыцягнуты да суровай адказнасці зажымшчыкі крытыкі і праследвальнікі рабкораў з 7-га акалодка. Яшчэ больш дзіўна маўчанне «Соцыялістычнага транспарта».

# Адкрытае пісьмо т. Касаткіну

Тав. Касаткін!

Я ведаю цябе па сумеснай вучобе на курсах газетных работнікаў пры ЦК КП(б)Б у 1932 г. і таму вельмі ўважліва заўсёды чытаю тваю газету **«За ўдарнае будаўніцтва»**, якую атрымліваю ў парадку абмену.

Перада мною № 27 тваёй газеты ад 18 мая. Фарматам ён такі, як і раённыя. Усе 4 старонкі я прачытаў поўнасцю, але, на вялікі жаль, не знайшоў нічога, што можна было-б перанясць у цябе. У гэтым нумары прымаюць удзел толькі 4 рабкоры, астатнія матэрыялы ўсе перадрукаваны з цэнтральных газет.

У артыкуле «Ратуйце сям'ю Вільнера», пад якой красуецца подпіс **«Рэдакцыя»**, ты пішаш: «Не маючы магчымасці змясціць пісьмо на старонках газеты поўнасцю, прыводзем некаторыя вытрымкі з яго». Гэта-ж, тав. Касаткін, прамое ашуканства чытача: у газеце-ж было месца хоць адбаўляй.

Я лічу, што лепш было-б, калі-б ты менш перадрукоўваў матэрыялаў з цэнтральных газет, а змяшчаў-бы больш матэрыялаў з сваёй вытворчасці.

Відаць, што і з крытыкай у цябе не ўсё ў парадку. Толькі гэтым і можна тлумачыць, што ў газеце вельмі многа подпісаў «Рабочий», «Свой» і т. д. Гэта значыць, што рабкоры баяцца падпісаць пад заметкай сваё прозвішча. Рэдакцыя мала працуе над тым, каб выхоўваць рабкораў.

У адным з нумароў газеты ты змяшчаеш наказ новаму фабкому, і на гэтым справа канчаецца. А вось матэрыялаў аб рабоце прафоргаў, фабкома ў газеце няма. Амаль не змяшчаеш матэрыялаў аб партыйным жыцці. Няма ў газеце і барацьбы за культуру, за чыстае рабочае месца і т. д. Мова газеты сухая, казённая.

Мне падабаецца, што ты сістэматычна змяшчаеш міжнародную інфармацыю. Але дрэнна, што ты зусім не даеш інфармацыі з жыцця свайго раёна, сваёй будоўлі.

Спадзяюся, т. Касаткін, што ты ўлічыш мае таварыскія заўвагі, зробіш сваю газету больш жывой, аператыўнай.

Прашу цябе праз **«Большэвіцкі друк»** напісаць сваю думку аб маёй рабоце, указаць на недахопы газеты, якую я рэдагую.

**З тав. прывітаннем**
**рэдактар газеты «Сцяг індустрыялізацыі» ФЛЯЎМЕНБАЎМ.**

# Указанні журнала будуць улічаны

АДКАЗ НА АДКРЫТАЕ ПІСЬМО т. ГЛЕЗЕРА.

У 9-м нумары журнала **«Большэвіцкі друк»** змешчана адкрытае пісьмо да мяне тав. **Глезера**. Ва ўмовах работы ў новым раёне мне асабліва патрэбны практычныя ўказанні. Таму я вельмі ўдзячны «Большэвіцкаму друку» за гэта пісьмо.

Зусім правільна адзначана ў пісьме тав. Глезера, што **«Большэвіцкі змагар»** дрэнна асвятляе партыйнае жыццё ў раёне. Прычын тут шмат. У раёне я чалавек новы. Азнаёміцца адразу з раёнам, яго ўмовамі, партыйнай арганізацыяй было не так лёгка. Прыехаў я ў раён у такі момант, калі сакратар райкома, старшыня РВК, рэдактар газеты былі зняты з работы.

У рэдакцыі справы былі дрэнныя. Два работнікі, два сталы і некалькі крэслаў— вось усё, што я знайшоў у рэдакцыі. За што ўзяцца перш за ўсё? Мне прышлося брацца адразу за ўсё.

Але я не збіраюся адмаўляць свае недахопы, хавацца за «аб'ектыўныя» прычыны. Уся справа ў тым, **што я яшчэ не**

**навучыўся спалучаць адну работу з другой, выдзяляць найбольш важныя ў даны перыяд пытанні.**

Узяўся я за пытанні веснавой сяўбы. Паслаў усіх работнікаў газеты ў адстаючыя сельсоветы ў якасці выязных рэдакцый. У рэдакцыі я астаўся адзін. Вось і атрымалася, што адстаючыя сельсоветы мы падцягнулі, а такія важнейшыя пытанні, як пытанні партыйнай работы, упусцілі.

Указанні журнала аб гэтым буйнейшым недахопе прышлі своечасова. Пісьмо мы абмеркавалі на калектыве рэдакцыі, намецілі, як хутчэй і лепш выправіць памылкі, наладзіць шырокае асвятленне ў газеце партыйнага жыцця.

Мой намеснік, які павінен весці партыйны аддзел у газеце, да гэтага часу быў загружан іншымі справамі і не меў магчымасці паставіць як след гэты аддзел. Цяпер я вызваліў яго ад усіх іншых работ і ён будзе займацца выключна пытаннямі партыйнага жыцця. Даб'емся таго, каб з нумара ў нумар асвятляліся пытанні партыйнай работы ў раёне.

Указанні «Большэвіцкага друку» мы поўнасцю ўлічым, прарыў у рабоце газеты, на які ўказаў журнал, ліквідуем.

**ВІТ. СІДАРУК,**
**адказны рэдактар газеты «Большэвіцкі змагар».**

Вуглоба рэдактара

# Вучыцца працаваць у „Праўды“

**(З кнігі «Редактирование и массовая работа большевистской печати»).**

Партыя кіруе сваімі газетамі штодзенна, штогадзінна. Ажыццяўляе гэта кіраўніцтва праз сістэму партыйных органаў, праз мясцовыя партыйныя камітэты і праз цэнтральны орган партыі — «Праўду». Свае дырэктывы партыя даводзіць да найшырэйшых мас у першую чаргу праз ЦО. Перадавы артыкул «Праўды» — гэта прапаганда, растлумачэнне дырэктыў партыі па таму ці іншаму пытанню. Артыкулы ў «Праўде», агляды друку, карэспандэнцыі, інфармацыя — усё гэта з'яўляецца інструментамі растлумачэння і арганізацыі мас на выкананне ўказанняў партыі, якія дырэктыў на даны адрэзак часу па тых ці іншых канкрэтных пытаннях.

Вучыцца і працаваць у адпаведнасці з указаннямі «Праўды» — гэта значыць **штодзенна** ажыццяўляць дырэктывы партыі ў іх канкрэтным праламленні на даным заводзе, фабрыцы, у даным соўгасе, МТС.

**Вучыцца працаваць у «Праўды»** — гэта значыць штодзенна на аналізе канкрэтных фактаў, на растлумачэнні дырэктыў партыі вучыцца асваенню ленінскага, сталінскага стылю ў рабоце друку, уменню канкрэтна і аператыўна змагацца адначасова і за вялікія і за маленькія справы сацыялістычнага будаўніцтва.

**Вучыцца ў «Праўды»** — гэта значыць вучыцца паслядоўна з дня ў дзень працаваць над справай перавыхавання мільёнаў, над выхаваннем сацыялістычных адносін да працы, над выкарчоўваннем карэнняў капіталізма не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей.

**Вучыцца ў «Праўды»** — гэта значыць вучыцца ўменню штодзенна працаваць над павышэннем культурнага ўзроўню мас, над ператварэннем кожнага рабочага і калгасніка ў свядомых грамадзян савецкай краіны, грамадзян бацькаўшчыны ўсяго сусветнага пралетарыята.

**Вучыцца ў «Праўды»** можна толькі штодзенна вывучаючы «Праўду», скарыстоўваючы кожнае ўказанне для таго, каб палепшыць сваю ўласную работу.

Як працаваць над «Праўдай»? — вось пытанне, якое часта задаюць нізавыя работнікі друку. Мы раім працаваць над «Праўдай» так, як мы працуем над работамі класікаў марксізма. Не перагортваць «Праўду», а вывучаць яе, вывучаць з ка-

рандашом у руках. Вывучаць і для таго, каб штодзенна расшыраць свае веды, і для таго, каб выкарыстаць кожны нумар «Праўды» як дырэктыву для паляпшэння зместу сваёй газеты. Мы раім рэдактарам весці сістэматычны дзеннік, які адлюстроўваў-бы рэзультаты работы над «Праўдой», дапамагаў-бы «паварачваць указанні «Праўды» да мясцовых асаблівасцей і ўмоў».

Вось узор такога дзенніка за пяць дзён. [1]).

«Учора скончыў складанне плана падрыхтоўкі да з'езда партыі. Асаблівую ўвагу аддаў падрыхтоўцы да ленінскіх дзён. Парашыў сабраць нараду актывістаў-селькораў, разам з імі яшчэ раз абмеркаваць асноўныя мерапрыемствы, намечаныя на два месяцы.

Сёння прышла «Праўда» за 3 снежня. Я і раней чытаў яе ўважліва, але сёння, пасля таго як грунтоўна папрацаваў над планам, я да «Праўды» падышоў ужо па-іншаму — пачаў яе чытаць як рэдактар. Чытаючы, я параўноўваў з маім планам.

Першы вывад — план мой далёк ад дасканаласці. Рад пытанняў недагледзеў, не ўлічыў. А гэта-ж толькі адзін з нумароў.

Парашыў завесці дзеннік рэдактара. У гэтым дзенніку я буду кожны дзень запісваць, што трэба зрабіць дадаткова ў газеце, чытаючы «Праўду».

Другой задачай я сабе паставіў — адзначаць у дзенніку, што трэба дадаткова прачытаць у сувязі з матэрыяламі, якія друкуюцца ў «Праўде».

**«Праўда» за 3 снежня.**

Як многа новых пытанняў, як іх усе ахапіць! Перадавы артыкул прысвечан рабоце сельсоветаў. Проста, канкрэтна, ясна сфармуляваны задачы, якія стаяць перад нізавымі органамі пралетарскай дыктатуры. У перадавым указана, што трэба рабіць.

У гэтым-жа нумары — расказ А. Н. Мацэка «Как работает Галицкий сельсовет».

Надрукавана таксама паведамленне аб скліканні чацвертай сесіі ЦВК Саюза.

Прагледзеў камплект сваёй газеты: а ў мяне-ж аб советах амаль нічога няма. За два месяцы ні разу не паказаў па-сапраўднаму, як працуе совет.

Аб сельсоветах упамінаў у перадавым, у асобных заметках, але не было таго, каб разгорнута паказаць вопыт хоць-бы аднаго з сельсоветаў, метады яго работы.

Парашыў надрукаваць расказ Мацэка і дадаць да яго зварот ад рэдакцыі: няхай раскажуць старшыні нашых сельсоветаў, як яны працуюць, што ў іх новага.

Праз пяць дзён парашыў даць невялічкі артыкул аб тым, з каго складаецца сесія ЦВК, як яна працуе, якія пытанні будуць абмяркоўвацца.

У тым-жа нумары «Праўды» — агляд «Глазами города». Паведамляецца цікавы факт: калгас імя Варашылава арганізаваў двухдэкаднік паходу за чыстату ў вёсцы. Уключыў гэта пытанне ў план. Мяркую выпусціць спецыяльны нумар праз 7-8 дзён, прысвечаны паходу за чыстату.

Нумар я пастараюся даць такім чынам: дам выгрымкі з агляду, коратка раскажу, як варашылаўцы арганізавалі паход, падрыхтую выступленне двух-трох калгасаў, абавязкова групы калгасніц, дам выказацца некальнім старым жанчынам, настаўнікам, піонерам.

Артыкул «Разорительная дружба» прачытаў з вялікай цікавасцю.

Канфузны здарыўся ў мяне гэтымі днямі выпадак. Калгаснікі прасілі раеказаць аб Японіі. Прышлося абмежавацца агульнымі размовамі.

Успомніў. Радэк гэтымі днямі ў «Большевике» расхвальваў кнігу «Военно-фашистское движение в Японии». Трэба кнігу выпісаць.

**«Праўда за 4 снежня.**

Цікавейшае пісьмо калгаснікаў-ударнікаў Кабардзіна-Балкарыі тав. Сталіну.

Як мяняецца наша краіна, якія выдатныя людзі і справы робяцца, як праўдзіва, а галоўнае, разумна запісалі яны аб культуры, аб чуткім абыходжанні з кожным калгаснікам у паасобку.

Добра-б перадрукаваць і запытаць нашых кіраўнікоў калгаснікаў, што яны робяць.

Вось-жа што запісана кабардзінцамі:

«Барацьбу за культуру трэба пачынаць з клопатаў аб жывым чалавеку, аб жывых людзях, пачынаць з такіх вось гаспадарчых дробязей, якія турбуюць кожнага калгасніка».

Выходзіць, нават, што культуру таксама трэба браць з бою, у барацьбе з кулаком.

...«Ударнік, калгаснік-актывіст павінен,

[1]) Дзеннік гэты, складзены работнікамі ВКІЖ, быў надрукаван у журнале «Районная и политотдельская печать».

апрача таго, адказваць па крайняй меры за пяток двароў у сваёй брыгадзе, або ў сваім квартале. Ён павінен сам падаваць прыклад культурнага жыцця і дапамагаць іншым станавіцца культурнымі».

Проста, а галоўнае, так правільна схоплен асноўны сэнс таго, што трэба рабіць.

У нумары, прысвечаным культурнаму паходу, я гэтыя вытрымкі надрукую, раскажу коратка, як адзін з найбольш адсталых раёнаў стаў заможным.

**Аб дробязях калгаснага жыцця.** Гэта-ж пытанне выпала ў мяне з плана. Прыдзецца ўключыць.

Верш Безыменскага. Думаю даваць па частках. Добра-б дагаварыцца з настаўнікам, можа разучаць распяваць. Добрыя «Песня подруг-ударниц» і «Хор стариков».

Прачытаў рашэнне ЦК аб паляпшэнні справы самаадукацыі. Трэба сабраць завочнікаў, пагаварыць з імі, што трэба выправіць, і напісаць калектыўнае пісьмо.

Вось два дзесяткі ў раёне МТС завочнікаў навучаецца, а чаго ім не хапае, так і не ведаем.

Вось ужо тры дні «Правда» друкуе аб паездцы Літвінава ў Рым. Запыталі нядзях калгаснікі, зачым і чаму едзе. Прыдзецца даць невялічкі артыкул, радкоў у 60, чаму Літвінава запрасілі ў Італію. Трэба будзе паказаць, што буржуазія вымушана лічыцца з намі, бо Савецкі Саюз вырас у велізарную сілу.

**«Правда» за 5 снежня.**

Параўнаў перадавы артыкул «Правды» (к перавыбарам калгасных ячэек) з перадавым у маёй газеце.

Прасцей у «Праўдзе» напісана, больш зразумела для кожнага калгасніка, а галоўнае — усе задачы сфармуляваны. Парашыў выпусціць спецыяльны нумар з перадавым «Правды» і матэрыялам аб тым, як у нас ідзе падрыхтоўка к перавыбарам ячэек, з паказам у нумары лепшай ячэйкі.

Кожны дзень у «Праўдзе» многа цікавейшых фактаў, лічбаў. Прападаюць гэтыя лічбы і факты.

Раней я іх не заўважваў, а цяпер, чытаючы з карандашом у руках «Правду», я бачу, як «Правда» штодзенна павялічвае мае веды, як многа новага я пазнаю, а трэба-ж, каб гэта ведаў кожны калгаснік. **Парашыў завесці спецыяльны аддзел «Аб чым паведамляе «Правда»** — 40 радкоў у кожным нумары.

З нумара за 5 снежня я дам дзве заметкі: «Об перевозке товаров ширпотреба» і «Об обязательном строительстве торговых помещений в новых домах».

Цэлую паласу «Правда» прысвяціла дагавору паміж Паўночным краем і Іванаўскай вобласцю ў барацьбе за ўздым сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Добрыя абавязацельствы. Хоць мы не прымаем удзелу ў гэтым дагаворы, але чаму-б нам не ўключыцца ў барацьбу за выкананне гэтых абавязацельстваў? Дам невялічкае паведамленне. У паведамленні пералічу асноўныя абавязацельствы. Можна іх умясціць у 40 радкоў. Побач з гэтай заметкай абавязкова дам заметку, што фашыў урад аб падрыхтоўцы да зімоўкі жывёлы ў калгасных жывёлагадоўчых фермах. Галоўная ўвага ў гэтай заметцы — прапановы Камісіі выканання. Іх усяго шэсць. Выкладу іх проста, зразумела.

У гэтым-жа нумары пакажу на вопыце адной фермы, якое фактычнае становішча рэчаў. Трэба падумаць, ці не варта арганізаваць узаемаправерку калгасных ферм.

Расказ Апраноўскага «Золотые, золотистые» трэба было-б перадаць праз радыёвузел. Наогул, чаму мы так дрэнна скарыстоўваем літаратурныя нарысы і расказы, якія друкуе «Правда»? У газеце іх не змесціш, а для радыёвузла — найлепшае чытанне.

**«Правда» за 6 снежня.**

Перадавы артыкул аб спаборніцтве па жывёлагадоўлі. Вельмі цікавыя лічбы падаены ў перадавым. Абавязкова дам іх у новым аддзеле «Аб чым піша «Правда».

Пачаўся гандаль хлебам. У нас яшчэ насенне не засыпана. Трэба даць заметку аб тым, што гандаль хлебам пачаўся, але з каментарыямі, расказаць, хто вінават у тым, што нашай вобласці гандаль хлебам яшчэ не дазволен, заклікаць да хутчэйшай засыпкі насенных фондаў.

Прачытаў прамову тав. Постышэва. Учора ўночы прадумаў даклад Касіора і рэзалюцыю. Як змяніўся твар усіх раёнаў Савецкага Саюза. Вось думаю ўжо два дні, як расказаць калгаснікам аб нацыянальным пытанні, а расказаць-жа трэба. Не ведаю, з якога канца падыйсці.

Чытаў прамову Касіора. Папрабаваў успомніць, што гаварыў тав. Сталін на XVI з'ездзе па нацыянальнаму пытанню. Забыў. Прыдзецца перачытаць, асвяжыць у памяці. Можа стане ясней, з якога канца падыйсці да пытання.

**«Правда» за 7 снежня.**

Набліжаецца к канцу лейпцыгскі працэс. Усё думаю, як расказаць калгаснікам аб значэнні гэтага працэса для працоўных усяго свету.

Месца мала, а расказаць трэба проста, зразумела, каб людзі ўбачылі гераізм камуністаў, якія змагаюцца ва ўмовах небывалага тэрору. Пачакаю. Думаю, што лепш за ўсё будзе, калі дам прамову Дзімітрава.

Можа прысвяціць гэтай справе спецыяльны нумар, паказаць, як жывуць рабочыя і сяляне за граніцай, як змагаецца камуністычная партыя ў падполлі?

У нумары надрукован артыкул аб калгасным гандлі. Прачытаў. У думках нібы перагарнуў камплект газеты. А аказваецца-ж аб асаблівасцях гэтага года ў гандлі хлебам мы яшчэ не расказалі. Прыдзецца гэта зрабіць.

Чым уважлівей чытаю я «Праўду», тым усё больш паўстае перада мной пытанне, як павялічыць прапагандысцкі матэрыял у газеце, каб расшырыць кругазор калгаснікаў.

Цікава было-б абмяняцца вопытам з другімі рэдактарамі. А яшчэ лепш было-б зрабіць на гэту тэму завочную нараду. Шмат чаго карыснага і вартага мы даведаліся-б.

**«Правда» за 8 снежня.**

Я ўсё думаю, як расказаць аб лейпцыгскім працэсе. Сёння надрукован артыкул Васількоўскага. Рашыў яго перадаць па радыё, але выкінуць месца, дзе праводзіцца параўнанне з Кельскім працэсам. Калгаснікам гэта будзе незразумела. Пасля артыкула Васількоўскага мне ўжо лягчэй будзе ў самой газеце расказаць аб працэсе, бо многае чытач ужо будзе ведаць па радыё.

Вельмі добры нарыс Афінагенава «Наши разговоры о чистке». Хачу дагаварыцца з хатнікам, каб арганізаваць гучную чытку гэтага нарыса.

Проста і зразумела расказвае Афінагенаў аб тым, як лепшыя людзі рабочага класа ідуць у партыю, як яны разам з партыяй змагаюцца, як яны працуюць.

**Наогул трэба часцей знаёміць калгаснікаў з тым, што робіцца на прадпрыемствах.**

Пасля перарыву зноў надрукован аддзел «Помощь газетам политотдела МТС». Асвятляецца работа «Ударника».

Прачытаў два разы. Ясней стала, як падыйсці да пытанняў жывёлагадоўлі. Хачу прапанаваць начальніку палітаддзела падрыхтаваць канферэнцыю калгаснікаў, занятых у калгаснай жывёлагадоўлі. Пачну я з канферэнцыі ў адным з калгасаў. Хачу ўзяць свінагадоўчую ферму. У гэтым калгасе мы распрацуем з ударнікамі план барацьбы за павышэнне таварнасці, за лепшую падрыхтоўку да веснавога апаросу, паглядзім, якая аплата працы. Падрыхтуем пісьмо. Галоўнае, каб у пісьме не было агульных месц, каб калгаснікі адразу ўбачылі, што гутарка ідзе аб вялікай канкрэтнай справе.

Хваляць у «Правде» раман Собалева «Капитальный ремонт». Вось ужо трэці месяц не прачытаў ні адной новай кнігі па літаратуры.

Справа, як відаць, не толькі ў тым, што часу мала. Вось я ўжо знайшоў час, каб кожны дзень паўтары гадзіны аддаваць «Правде» — якая карысць! Можна знайсці час і для чытання літаратуры. Хачу дагаварыцца з начальнікам палітаддзела, каб у складчыну выпісаць рад новых кніг і абавязкова чытаць».

***

Такі дзеннік можа быць у кожнага рэдактара. Рэдактар абавязан чытаць «Праўду» не проста як чытач, а іменна як рэдактар. Ён павінен вучыцца на «Правде», як працаваць.

Кожны нумар «Правды» — дырэктыва к дзеянню. Кожны нумар «Правды» дае велізарную колькасць матэрыялаў аб тым, што рабіць і як працаваць у газеце. Штодзенная работа над «Правдой» дапаможа кожнаму рэдактару лепш арганізаваць сваю работу, асвоіць ленінскі стыль работы бальшавіцкага друку.

## *Комуністычны друк за граніцай*

# Пад сцягам Окцябра

**Д. Снежка**

**(АГЛЯД РЭВОЛЮЦЫЙНАГА ДРУКУ ІСПАНІІ ПА МАТЭРЫЯЛАХ, АТРЫМАНЫХ НА МОВЕ ЭСПЕРАНТО)**

Комуністычная партыя Іспаніі працуе ва ўмовах глыбокага падполля і адтуль кіруе рэволюцыйнай барацьбой пролетарыята, выдае ў падполлі свае газеты, якія ва ўмовах нелегальнай работы партыі, адыгрываюць вялікую ролю.

З пачатку сваёй арганізацыі компартыя Іспаніі выдае газету **«Мундо обрэро»** («Рабочы свет»). Гэта газета большасць свайго існавання правяла ў падполлі. Генеральская дыктатура Прымо-дэ-Рывера не раз абрушвалася на комуністычны друк Іспаніі. Не раз яго лепшыя работнікі арыштоўваліся і кідаліся ў турмы. Але, наперакор тэрору ўрада Прымо-дэ-Рывера, «Мундо Обрэро» выходзіў. Ён выходзіў пад другімі назвамі: **«Пролетарскі свет»**, проста **«Свет»**, і інш., але прадаўжаў сваю вялікую работу.




**Падпольнае выданне пастаноў ЦК іспанскай компартыі аб окцябрскіх падзеях.**

У дні гераічнай барацьбы іспанскага пролетарыята—у кастрычніку 1934 г.—комуністычны друк дапамагаў партыі арганізоўваць масы ў адкрытых бойках за ўладу, у барацьбе за советы, супроць капітала, супроць фашызма.

На барыкадах класавых боек у Астурыі комуністычны друк адыграў вялікую ролю, арганізуючы масы вакол партыі ў адзіны фронт супроць фашызма. Не дарма пасля кастрычніцкіх падзей урад Лерруса, узяўшы ўладу ў свае рукі, у першую чаргу забараніў комуністычны друк. Затым быў забаронен і лева-буржуазны друк. Толькі друк здраднікаў анархістаў выходзіў рэгулярна, абліваючы брудам гнусных паклёпаў і хлусні комуністаў, гераічна аддаўшых сваё жыццё за справу пролетарскай рэволюцыі.

Але ні дзікі тэрор крывавага ката генерала Очоа, ні ўсе спробы ўрада Лерруса не змаглі знішчыць комуністычны друк. У рэволюцыйных бойках комуністычны друк атрымаў яшчэ адно баявое хрышчэнне. Замест «Мундо Обрэро» пачала выходзіць падпольная **«Бандэра роха»** («Чырвоны сцяг»), як орган ЦК компартыі Іспаніі.

У Каталоніі — правінцыі Іспаніі, замест **«Каталонья роха»** пачала выходзіць **«Льюліпа»** («Барацьба»).

Комсамол выдае сваю газету **«Ховен гвардыя»**.

«Бандэра роха» высока трымае сцяг ленінскай непрымірымасці ў барацьбе, сцяг Комінтэрна.

Перад намі некалькі нумароў «Бандэра роха» за 1935 год і некалькі выданняў «Б. Р.». Невялічкага фармата, на тонкай паперы, яна падобна на дзесяткі падпольных газет комуністычных партый іншых краін («Ротэ Фанэ» і інш.).

Вось толькі назвы некалькіх артыкулаў, якія ўжо дастаткова сведчаць аб тым, як газета дапамагае партыі ўсё больш і больш згуртоўваць пролетарыят пад сцягамі Комінтэрна на рашучы астатні бой.

«Па сталінскаму шляху за Чырвоны окцябр у нашай краіне».

«За адзіны антыфашысцкі фронт».

«Сталін у барацьбе з контррэволюцыяй».

«Па шляху Леніна».


BANDERA ROJA

LAS ALIANZAS OBRERAS Y CAMPESINAS DEBEN SER ÓRGANOS DE FRENTE ÚNICO PARA LAS LUCHAS DIARIAS DE TODOS LOS TRABAJADORES

**«Бандэра Роха» («Чырвоны сцяг»)—падпольная газета іспанскай комуністычнай партыі.**

Гэта галоўныя артыкулы толькі аднаго нумара. «Бандэра Роха» аргані зуе масы на барацьбу супроць крывавага тэрору агалцелага фашызма.

«Рабочыя, — піша газета, — выратуем нашых братоў па класу». Яна расказвае аб тых зверствах і злачынствах, якім падвяргаліся арыштаваныя таварышы, і як яны гераічна трымаюць сябе. Яна дае малюнкі, фотаздымкі — жудасныя дакументы крывавай расправы капіталістаў над сваімі рабочымі.

У № 5 за 1935 г. **«Б. Р.»** змяшчае артыкул: «Наш нелегальны друк», у якім расказвае, як расце друк компартыі, не гледзячы на ўсе перашкоды.

**«Выходзяць газеты зараз — піша «Б.Р.» — у Мадрыдзе, у Валенсіі, Барселоне, у Новай Кастыліі, Візкане, Балеарэса, Канарыясе, Галісы, Падрыхтоўваецца выданне сваіх газет і ў Сэнтандэры і ў Севільі».**

У гэтым артыкуле расказваецца, што выдавецтва «Б. Р.» выдае, апрача газеты, шмат лістовак, брашур для выхавання мас. Так выданы брашурай «Барацьба за Окцябр» — пастановы палітбюро КП Іспаніі аб уроках кастрычніцкіх падзей. Тысячы чырвоных лістовак са смелымі карыкатурамі, з адозвамі да рабочых раскідваюцца на заводах і фабрыках, па вуліцах гарадоў і вёсак Іспаніі актыўнымі рабкорамі **«Б. Р.»**.

**«Банда багацеяў, хаваючыся за дэмакратычную маску рэспубліканцаў і соцыялістаў, імкнецца ўзваліць на плечы пролетарыята і сялянства непасільны цяжар крызіса. Рабочыя, работніцы, сяляне! Не галасуйце за сваіх катаў».**

— З такімі лозунгамі выходзяць лістоўкі «Бандэра роха».

У барацьбе за адзіны рабочы фронт «Бандэра роха» адыгрывае кіруючую ролю. № 8 **«Б. Р.»** выходзіць з перадавым артыкулам, прысвечаным пытанням арганізацыі адзінага антыфашысцкага фронта рабочых і сялян «Альянса Обрэра», куды пад уплывам росту рэволюцыйнага руху пролетарыята з аднаго боку і росту рэакцыі з другога — увайшла і левая частка соцыялістычнай партыі.

«Бандэра роха» пачала падрыхтоўку да VIII кангрэса Комінтэрна і разгортвае велізарную масавую кампанію па яшчэ большаму згуртаванню мас вакол партыі

пад непераможным сцягам Маркса—Леніна—Сталіна, сцягам Комінтэрна.

Значнае месца ўдзяляе **«Б. Р.»** унутрыпартыйнаму жыццю. У раздзеле «Наша партыя» яна расказвае, як па гарадах і вёсках Іспаніі ўсё больш шырокія масы рабочых і сялян ідуць пад сцягі партыі. У Сан-Себасцьяне, Овіедо, Барселоне, Мадрыдзе і інш. гарадах дзесяткі новых рабочых, расчараваных здрадніцкай палітыкай соцыялістаў і анархістаў, уступілі ў комуністычную партыю.

Адзіны фронт працоўных у Іспаніі мае свой орган — **«Ля-Луча»** («Барацьба»). Гэта газета праводзіць велізарную работу па расшырэнню і ўмацаванню адзінага фронта. Усё новыя і новыя арганізацыі далучаюцца да «Альянса Обрэро». Так расце і мацнее адзіны антыфашысцкі фронт.

Расце ўплыў комуністычнай партыі не толькі сярод пролетарыята, але і сярод сялянства і інтэлігенцыі. Партыя згуртоўвае вакол сябе ўсіх працоўных, усіх прыгнечаных Іспаніі. Ва ўмовах падполля комуністычны друк дапамагае ўстанаўленню больш цеснай сувязі шырокіх рабочых мас з партыяй, ён арганізуе іх на апошні бой з капіталізмам, на барацьбу за савецкую Іспанію.

---




# ЛІТАРАТУРНЫ БАНДЫТЫЗМ У КАПЫЛІ

Рэдактар раённай газеты **«Калгаснік Капыльшчыны» К. Слабодчанка** рашыў змясціць у сваёй газеце перадавы артыкул аб дарожным будаўніцтве.

Уяўляем сабе звычайную карціну: рэдакцыя знаёміцца са станам дарожнага будаўніцтва ў раёне, збірае весткі, факты, работнікі рэдакцыі выязджаюць у калгасы, каб на месцы азнаёміцца са справай. Нарэшце, газета мае селькораў, і рэдакцыя звязваецца з селькорамі па пытанню дарожнага будаўніцтва. Такім чынам збіраецца багаты матэрыял для перадавога артыкула.

Так, нам здаецца, павінна было быць. Але ў рэдакцыі капыльскай газеты свой «метад» пісання перадавых.

— Нашто ўся гэта «мітусня» з селькорамі, з фактамі, калі можна лягчэй выйсці са становішча, — рашылі ў рэдакцыі.

Работнік рэдакцыі бярэ пачку старых раённых газет, бегла праглядае іх. Адна, другая газета ляціць у бок і вось, нарэшце, знаходзіцца тое, што патрэбна: у бягомльскай раённай газеце **«Калгасны змагар»** 26 красавіка надрукован артыкул «Усю свабодную ад сяўбы рабочую сілу — на дорбудаўніцтва». Што яшчэ патрэбна?! Ножніцы ў рукі, артыкул выразваецца, дзе-ні-дзе робяцца невялікія папраўкі, каб плагіят не так кідаўся ў вочы, і артыкул пасылаецца ў набор.

Такава гісторыя з'яўлення ў нумары за 19 мая капыльскай газеты перадавога артыкула «Усю свабодную рабочую сілу — на дарожнае будаўніцтва». За выключэннем назваў калгасаў і прозвішчаў **увесь артыкул спісан з бягомльскай газеты.**

Было-б яшчэ поўбяды, калі-б гэты агідны факт плагіяту быў адзіным выпадкам у рэдакцыі «Калгасніка Капыльшчыны». Справа ў тым, што перапісванне матэрыялаў з другіх газет тут **узаконена і лічыцца ў парадку рэчаў.**

Некалькі месяцаў назад работнік рэдакцыі нашага журнала, будучы ў Капылі, выкрыў практыку плагіяцтва, якою яшчэ тады шырока карысталіся работнікі «Калгасніка Капыльшчыны». Тады работнікі рэдакцыі, нікольки не саромеючыся, перапісвалі артыкулы з газеты палітаддзела Капыльскай МТС. Палітаддзельская газета спыніла выхад... ну што-ж, спрытныя работнікі «Калгасніка Капыльшчыны» стрыгуць артыкулы з газет другіх раёнаў.

**«Праўда»** ў аглядзе друку 28 мая назвала **літаратурнымі бандытамі** людзей, якія, не жадаючы турбавацца сябе, перапісваюць артыкулы з камплектаў другіх газет.

Гэта ганебнае імя, як нельга лепш, падыходзіць да плагіятараў з «Калгасніка Капыльшчыны».

# „Асцярожней чытайце, тут нядобра“

Гэты загаловак мы запазычылі з газеты **«Рэчыцкая праўда»** ад 15 мая. Праўда, адно слова ў загалоўку мы перамянілі: замест «ступайце» напісалі «чытайце». Такая рэдакцыя загалоўка, па нашай думцы, больш падыходзіць к тону заметкі ў «Рэчыцкай праўдзе».

Растлумачым сутнасць справы. На рагу фабрычна-заводскай і комсамольскай вуліц у Рэчыцы няма тратуараў. Гэта, зразумела, прыносіць грамадзянам Рэчыцы сур'ёзныя непрыемнасці. Факт варты таго, каб ім занялася раённая газета.

І зрабіць гэта газеце не так цяжка. Узяць ды напісаць заметку, талкова расказаць сутнасць справы, указаць вінаватых у нядбайстве. Не забараняецца і гумарыстычны тон заметкі і нават лірычныя адступленні можна ўставіць.

Але ўсё гэта трэба рабіць умела, прычым заўсёды ў аўтара (і рэдактара) павінна быць **пачуццё меры** і элементарны мастацкі густ.

На гэты раз і аўтар фельетона тав. **Кавалеўскі** і рэдактар газеты тав. **Грынглаз** аказаліся пазбаўленымі гэтых якасцей. Чытаем пачатак фельетона:

> **«Вечар. Тысячамі ігл калоўся дождж у твары прахожых. Дробным варышкам залазіў у кішэні паліто. Мацёрым налётчыкам свірэпы вецер насіўся па вуліцы, зрываючы ў прахожых вопратку. Непраглядная цемра таржэствавала, злараднa і нагла заглядала яна ў твары сваіх афяр».**

Няважна атрымалася, таварышы з «Рэчыцкай праўды»! Занадта згусцілі фарбы, перабралі, як кажуць, меру.

Цяпер зразумела, чаму мы зрабілі папраўку ў загалоўку вашага фельетона.

**РАМ. САБАЛЕНКА.**

Менск, друкарня „Звязды" Здана ў набор 2.VI—35 г. Падпісана да друку 11—VI—35.
Уп. Галоўлітбела №—2888. Тыраж 1.200 экз. 2 з чвэрткай друк. арк. У арк. 75.000 зн.

